
Новыя выданні ў Студзіводах →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Бітва пад Сямятычамі →8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3067) Год LX Беласток, 22 лютага 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Усе меншасці прэзідэнта

**Між сустрэчай з „бронзавымі” гандбалістамі і прэс-канферэнцыяй аб выніках мінскіх перамоў наконт Украіны, прэзідэнт РП Браніслаў Камароўскі прыняў у прэзідэнцкім палацы прадстаўнікоў нацыянальных ды этнічных меншасцей Польшчы.**



Навагодняя сустрэча з меншасцямі была другой такога роду ў апошнія гады. Першы раз у пасляваеннай Польшчы меншасці з афіцыйным візітам у прэзідэнцкім палацы з'явіліся ў 2012 годзе. Сёлета — тры гады пазней, а тры месяцы перад прэзідэнцкімі выбарамі ў сталіцу прыехалі беларусы, немцы, украінцы, літоўцы, славакі, чэхі, расіяне, яўрэі, татары, кашубы, ромы, караімы і армяне.

## У гасцях у прэзідэнта

— Такія сустрэчы напэўна дапамагаюць большасці, бо большасць пакazвае, што клапоціцца за лёс меншасці, — кажа Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы і сябра аб'яднання АБ-БА. — З другога боку прыемна паглядзець на прэзідэнцкі палац і пацiснуць руку прэзідэнту. Чалавек, які лічыцца галавой краіны, знаходзіць час, каб сустрэцца з прадстаўнікамі меншасцей. Гэта ўсё ж такі гонар.

На думку дэпутата Сейма і былога дарадчыка Браніслава Камароўскага па справах праваслаўнай грамадскасці і беларускай меншасці ў Польшчы Аляксандра Сасны, прэзідэнт цікавіцца кожным, хто мае праблемы як грамадзянін краіны:

— З аднаго боку можна сказаць, што сустрэча мела ветлівы характар. Прэзідэнт, нібыта бацька, хоча пабачыць і пачуць тое, што нас, як меншасці, баліць. З другога боку, паводле польскіх законаў, прэзідэнт не мае ніякіх юрыдычных магчымасцей, каб паўплываць на палітыку краіны ў дачыненні да меншасцей. Аднак такая сустрэча — доказ таму, што дзяржава „стаіць у адным шэрагу” з намі і падтрымлівае нашае імкненне да захавання тоеснасці.

## Навагоднія пажаданні

Сустрэча прэзідэнта з меншасцямі ў палацы на Кракаўскім прадмесці была дэталёва запланавана. Яе ўдзельнікаў ужо пятнаццаць хвілін перад 13-й гадзінай паставілі ў алфавітным парадку па абодвух баках залы, так што найбліжэй кіраўніка дзяржавы сталі налева беларусы а направа — габрэі. Зручнае распалажэнне ўмела выкарыстала прадстаўніца нашай дэлегацыі. Але пра гэта пазней.

Роўна ў трынаццаць гадзін адкрыліся дзверы і ў залу ўвайшлі Браніслаў Камароўскі разам з жонкай Аннай. Прэзідэнт



у сваім выступленні пераказаў пажаданні ўсім супольнасцям, „якія прадстаўляюць гэта, што глыбока ўкаранілася ў гісторыю Польшчы, аднак не існуе ў свядомасці сённяшніх палякаў”. Гэта, паводле Камароўскага, шматколернасць Рэчы Паспалітай:

— Польшча вольная, Польшча дэмакратычная з'яўляецца Айчынай таксама розных грамадзян, якія маюць свае традыцыі — у нацыянальным паходжанні, у сваіх рэлігіях і мовах. Хачу шчыра пажадаць для іх поспеху ў новым годзе. Хачу пажадаць, каб мы захоўвалі і пашыралі тое, што сёння маем, што з'яўляецца адным з істотных элементаў вольнай Польшчы.

Захаваць і пашыраць традыцыю, культуру і мову можам дзякуючы, між іншым, кадыфікацыі сваіх асноўных правоў у законе аб нацыянальных ды этнічных меншасцях. Як заўважыў сябра Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных меншасцей, немец Рафал Бартэк, 6 студзеня мінула 10 гадоў ад уступлення ў сілу гэтага закона.

— Маем сёння ў Польшчы 56 гмін і 1169 мясцовасцей, у якіх уведзены двухмоўныя шыльды, ды 33 гміны з дапаможнай мовай меншасці, — падкрэсліў у сваім выступленні перад прэзідэнтам Рафал Бартэк. — Усё дзякуючы 10-гадоваму існаванню законных правілаў.

— Паколькі я ўжо была другі раз на сустрэчы з прэзідэнтам, першы раз як журналіст, то гэтым разам быў зроблены акцэнт на падтрыманне нацыянальных моў у гмінных адміністрацыях, у тым ліку на двухмоўных указальніках, і гэты прыклад — адкрытая прапанова, каб людзі карысталіся, далучаліся да такой магчымасці, — лічыць журналістка „Нівы” Ганна Кандрацюк-Свярубская. — Я б хацела, каб такія словы гучалі ў Беластоку ад нашых чыноўнікаў, каб яны адзначалі, што мы, меншасць, не з'яўляемся нейкай праблемай, што, наадварот — уплываем у крэатыўны і пазітыўны спосаб на развіццё Айчыны і на развіццё еўрапейскіх вартасцей.

Нашай журналістцы, як адзінай, удалося пагаварыць з прэзідэнтам у час супольнага здымка:

— Абмянялася я словам з прэзідэнтам. Гаварылі мы пра жыхароў гміны Чыжы. Прэзідэнт пераказаў прывітанне для нашай меншасці і асабліва для жыхароў Чыжоўскай гміны.

Прыгадайма, што ў час прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе ў гміне Чыжы Камароўскі атрымаў найлепшы вынік у маштабе краіны. Амаль 93 адсоткі жыхароў гміны прагаласавала за кандыдата Грамадзянскай платформы. Летам 2011 года Камароўскі наведаў Чыжы і падзякаваў за вынік. Ці будзе мець магчымасць падзякаваць у 2015 годзе?

## „Тлусты чацвер” з меншасцямі

Хаця на сустрэчы з Камароўскім, апрача прадстаўнікоў меншасцей, прысутнічалі таксама варшаўскія журналісты, відаць было, што больш іх цікавіць тое, што прэзідэнт скажа праз сорак хвілін наконт завершаных у гэты дзень мінскіх мірных перамоў Пуціна, Меркель і астатніх. Таму і не здзіўляе адсутнасць тэмы нацыянальных меншасцей у агульнапольскіх СМІ, калі нават журналістаў яна не цікавіць. Ад сяброў па прафесіі даведаўся я, што найсмачнейшыя пончыкі з нагоды „тлустага чацвярга” прынёс на працу маршалак Сейма Радаслаў Сікорскі.

Немалыя эмоцыі выклікала таксама нейкая цётка, ужо не помню скуль, якая захацела быць арыгінальнай і пачаставала журналістаў „мурашнікам” — традыцыйным цестам, якое пякуць, дарэчы, між іншым літоўцы на Сувальшчыне. Вось, варшаўскім журналістам гэта была навіна. Таму і не здзіўляе што грамадская думка атаясамлівае меншасці перш за ўсё з іх арыгінальнымі стравамі.

* * *

— Добра каб усе зразумелі, што мы ў такім „польскім моры” і трэба нам, папершае, у сваіх сем'ях змагацца за сваё, за беларускасць, — падсумоўвае прэзідэнцкую сустрэчу Аліна Ваўранюк. — Захаваць тоеснасць — не такая лёгкая справа. А каб захаваць яе, нам патрэбная падтрымка. І ўсё ж такі мы павінны дзейнічаць на іншых правах. Дарэчы, на правах, якія гарантуе нам закон аб нацыянальных меншасцях. І добра было б, каб і нашыя гэтак званыя самаўрадаўцы пра гэта памяталі, але і памяталі пра гэта нашыя падляшскія чыноўнікі.

**Тэкст і фота Лукаша ЛЕАНЮКА**





# За сваё

Хачу пачаць з можа малазначнай, але надзвычай непрыемнай гісторыі апошняга тыдня. У горадзе Асіповічы, невялікім раённым цэнтры паміж Магілёвам і Менскам, гулялі вяселле. Адна маладая сямейная пара, звычайныя людзі, ніяк не звязаныя з нейкімі грамадскімі рухамі ці палітычнымі арганізацыямі, размаўляла паміж сабой па-беларуску. А ў час так званага „дзялення караваю" яны павіншавалі маладых таксама на роднай мове. Крыху пазней гэта выклікала неадэкватна адмоўную рэакцыю часткі падвыпіўшых гасцей. Дайшло да таго, што нейкая сваячка нявесты пачала біць маладую жанчыну сумачкай па галаве, а група агрэсіўных гасцей нападаць на яе мужа, пагражаючы расправай. І гэта менавіта за беларускую мову! Да вялікай бойкі штурханіна балазе не дайшла, але можна ўявіць сабе настрой гэтых людзей. Раней пра падобныя выпадкі ніколі чутна не было. Са свайго асабістага досведу скажу, што неаднаразова даводзілася мне бываць госцем на розных вяселлях у розных мясцовасцях. І заўсёды на маю беларускую мову рэакцыя была выключна пазітыўнай. І нават моцна станоўчай — ледзь не большыня прысутных гасцей заўсёды падыходзіла, дзякавала, выказвала сімпатыю, казала пра тое, як яны любяць родную мову, шкадуюць, што самі на ёй не размаўляюць і іншыя падобныя рэчы. А тут такое дзікунства.

Што тут скажаш. Можна толькі канстатаваць, што нянавісць, якую сее і культывуе расейскае тэлебачанне, дае свае ганебныя плады. Вось ён „русский мир", пра які так любяць казаць розныя крамлёўскія прапагандысты — „бессмысленный і беспощадный", як і ўсё, што прыходзіла на нашы землі з ардынскага Усходу. Вось яны мясцовыя янычары і манкурты, якія выракліся свайго, перапоўненыя агрэсіяй да роднага і да іншадумцаў. Такіх многа на ўсёй постасавецкай прасторы, савецкі чалавек нават пасля чвэрці стагоддзя пасля канання СССР жыве і ненавідзіць увесь свет па-за яго прымітыўнымі ўяўленнямі.

Што характэрна, у Беларусі сваёй роднай мовы цяпер цураюцца найперш людзі з малых мясцовасцей, гарадкоў і вёсак. Людзі з мястэчак і вёсак ужо не з'яўляюцца носьбітамі беларускага слова. Гэта ранейшыя пакаленні беларускамоўных паэтаў ды журналістаў спрэс паходзілі з розных вёсак і мястэчак. За апошнія трыццаць гадоў сітуацыя істотна перамянілася. Цяпер новыя беларускамоўныя выходзяць з гарадоў. У вялікіх гарадах стаўленне да беларускасці значна лепшае. Гэта пацвярджаюць і розныя курсы мовы, што набіраюць усё большую папулярнасць. І гэта надае аптымізму. Нават дзяржаўныя структуры, якія 20 гадоў займаліся выкараненнем усяго беларускага, пачынаюць разумець патрэбу адраджэння свайго. Тут хутчэй усяго спрацоўвае інстынкт самазахавання. Прыклады ўсялякіх пачварных ДНР і ЛНР ніяк не натхняюць кіраўнікоў нібыта самастойнай краіны, якой рэальна пагражае расійская акупацыя. Сваё ёсць сваё і траціць цёплыя крэслы і шматлікія выгоды нікому не хочацца.

Мне асабіста апошнім часам шанцуе на прыязных людзей і аднадумцаў. Вось прыклад з нядаўніх асабістых назіранняў. Заходжу ў адну з цэнтральных аптэк горада над Нёманам. У суседняй чарзе незнаёмая мне дзяўчына размаўляе з іншай наведніцай па-беларуску, нешта ёй раіць. Даходзіць мая чарга — звяртаюся, як звычайна па-беларуску — маладая аптэкарка адразу пераходзіць выключна на нашу мову. Некаторыя з прысутных пачынаюць прыхільна ўсміхацца. Вось так элементарна і ствараецца беларускамоўнае асяроддзе. Выснова вельмі простая — носьбітам беларускай мовы трэба ўсюды, не толькі ў сацсетках, не толькі паміж сябрамі і блізкімі, а ўсюды — на вуліцах, на поштах, у крамах і ва ўсіх установах размаўляць па-беларуску. Толькі так можна значна пашырыць нашу моўную прастору, толькі так можна адрадзіць сваё. І тады ніколі не будзе такіх дзікунскіх выпадкаў, як на вяселлі ў Асіповічах. Наадварот, на гэтых вяселлях замест чужынскай прымітыўнай папсы, будзе пераважаць добрая беларуская музыка. І добрае беларускае слова.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Апусціць рукі



Самыя яркія розумы ў свеце задаюцца пытаннем, якая ў Пуціна стратэгія ў адносінах да Украіны, так і ўскосна да Еўропы, стаяўшай цвёрда на перакананні, што павага нацыянальных межаў, устаноўленых пасля апошняй сусветнай вайны, з'яўляецца надзейнай гарантыяй еўрапейскага ладу і міру. Але тое, што для некаторых з'яўляецца непарушным, для Пуціна лакомае. Ужо глытнуў, не міргнуўшы вокам Крым, зубы ўбіў у Луганск і Данецк, разяўляе ненасытную пысу на краіны Балтыі, і хто ведае, ці не мае вострага апетыту на польскія і не толькі польскія тэрыторыі. Тое, што ў канчатковым выніку ўдавіцца, гэта дакладна. Расія Пуціна — як псіхапатычны ненажэра, які выплёўвае надгрызеныя кускі, каб нарыхтаваць у страўніку месца для яшчэ большай жратвы. Нажэрэцца ці не нажэрэцца, толькі пакіне на стале хлеў. А хто будзе прыбіраць за ім? Хіба расіяне? Ненажэра на канец і кіпне пасярод непераварaных рэштак... ад голаду. Прыклад шырокай і сытай прыроднымі рэсурсамі Сібіры пацвярджае гэты тэзіс. Расія ад стагоддзяў высмоктвае мозг з яе жывых костак, нягледзячы на перадсмяротныя сутаргі гэтай першабытнай зямлі. Падчас праўлення Пуціна, які магутна ўзбройвае расійскую армію, гэтая паталагічная здзелка набрала апакаліптычных маштабаў. Сібір памірае. Таксама памірае Расія, якую мы ведаем. Але для Пуціна гэта нічога не значыць. На стале ўсё яшчэ тлустая Еўропа. Але ён пачаў ад поснай Украіны. Калі гэта стратэгія, над якой трэба ламаць галаву, дык... шкода для гэтага часу. Паказваецца штораз больш ясна з ходу паводзін Пуціна, што ён кіруецца стратэгіяй і тактыкай бесталковага муляра, які, перш чым думае, ужо муруе, і калі, нарэшце, падумае, развальвае выспяткамі тое, што пабудаваў, сцвярджаючы ілжыва, што толькі дурань мог бы нешта накшталт гэтага стварыць. Цікава, веру яго запэўніванням дае шмат еўрапейскіх палітыкаў. У тым ліку канцлер Германіі і прэзідэнт Францыі, што ўдзельнічалі ў апошніх перамовах аб перамір'і ў Мінску паміж Украінай і... Пуціным.

Колькі вартае тое перамір'е, што нібыта ўсіле ад нядзелі, можна пераканацца, чытаючы апошнія навіны агенцтваў. Яшчэ ў той жа дзень украінскія войскі былі атакаваныя больш чым у 60 разоў. Загінулі два мірныя жыхары. Інтрыгуе тое, на што звяртае ўвагу камандаванне арміі Украіны, што сепаратысты абстрэльваюць з абсурднай радасцю тыя мясцовасці, дзе няма ўкраінскіх войскаў. Сярод іншага, Данецк, цалкам пад іхнім кантролем, а таксама горад Попасная, на які сепаратысты накіравалі разлютаваны агонь з ракетных комплексаў „Град". Дазвольце мне нагадаць, што гэтыя ракеты, а таксама найноўшая рэактыўная сістэма залпавага агню „Тарнада-С", з'яўляюцца толькі ў валоданні расійскай арміі, і невыпадкова апынуліся яны ў распараджэнні сепаратыстаў. Пуцін нават і не думае пра мір.

Апошняе выказванне былога в.а. міністра нацыянальнай абароны Рамуальда Шарамецьева выклікае трывогу. Доктар ваенных навук не выключае агрэсіі Расіі супраць Польшчы. Ён таксама выказаў сумненне ў тым, што НАТА і ў гэтым выпадку дасць рады/адважыцца дапамагчы Польшчы. Што яшчэ горш, гэтаксама мяркуюць вельмі многія ваенныя эксперты. Як польскія, так і замежныя. Сапраўды, ёсць чаго баяцца, улічваючы тактыку Пуціна супраць НАТА і Еўропы, аб якой згадваецца вышэй. Ужо без іроніі апішу гэта так: спачатку Пуцін дзейнічае, а еўрапейскія палітыкі задаюцца пытаннем на працягу некалькіх месяцаў, што ён меў на ўвазе; Пуцін потым разважае, як спрацавала за гэты час Еўропа і дзейнічае далей у адпаведнасці з тымі ж правіламі, што ён падумае толькі тады, калі Еўропа перастане думаць, а пачне дзейнічаць. Ну, проста рукі апускаюцца...

За трывогу, якую Пуцін прынёс у Еўропу, за крыўду ўкраінцаў і таксама саміх расіян, за няўпэўненасць будучыні, я б з задавальненнем яго пакараў, як у дзяцінстве пакарала мяне мая талковая сваячка. Аднойчы, калі я ўшчыкнуў яе занадта балюча, яе ўзлаваны галасок абвясціў, што з гэтага часу яна і не падумае пра мяне на працягу двух дзён запар. Я перажыў тыя два дні цяжкага выпрабавання. Малая кузіна паслядоўна сцерла мяне са сваёй свядомасці. Я стаў для яе поўным нябытам, неіснаваннем, кімсьці/чымсьці без імя, прысутнасці, цялеснасці. Нулём. Гэта было самым балючым, але і найбольш павучальным вопытам майго дзяцінства. Толькі што Пуцін дарослы. А і я даспеў да таго, каб не верыць у эфектыўнасць такога пакарання. Ці абазначае гэта, што мне засталося толькі апусціць рукі?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Падазроныя: кнігі

Пасля трох гадоў я нядаўна наведаў Мінск, а на зваротным шляху заехаў на некалькі гадзін у Гродна. У беларускай сталіцы я прысутнічаў пры перамовах дырэктаркі беластоцкага драмтэатра Агнешкі Карытькоўскай-Мазур і спадарожнічаючага ёй дырэктара дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоля Вапа (быў таксама прысутны з намі Павал Грэсь, старшыня Фонду «Віла Сакрата») з кіраўніцтвам самых прэстыжных тэатраў беларускай сталіцы: Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Датычылі яны новага, расцягнутага на працягу двух гадоў, праекта беластоцкага тэатра з удзелам беларускіх драматургаў, рэжысёраў і акцёраў, таксама з Малдовы, Сербіі і Румыніі, і, вядома, Польшчы. У Гродне ў сваю чаргу пасля дзесяці гадоў аднавілі перамовы аб супрацоўніцтве паміж двума тэатрамі, у асноўным аб абмене спектаклямі. Аб гэтых і іншых польска-беларускіх праектах — не толькі тэатральных — была гаворка таксама ў Пасольстве Польшчы ў Мінску і Польскім інстытуце (тут з удзелам драматурга Мікалая Рудкоўскага і Дзмітрыя Багаслоўскага) і ў гродзенскім консульстве РП. Аб тэатральных і іншых мерапрыемствах у сталіцы Беларусі ды мінскіх і гродзенскіх уражаннях пішу на іншых старонках «Нівы».

Перш, чым мы дабраліся ў Мінск 9 лютага, каля поўдня нас трымалі на пагранпераходзе ў Бабро́ўніках беларускія мытныя службы, якія не мелі якраз у гэты дзень зашмат працы. Калі мы даехалі да пагранперахода, наперадзе нас стаяла ў чарзе пяць аўтамабіляў на беларускай рэгістрацыі і іх хутка адпусцілі. Зацікаўленне беларускіх мытнікаў — на самой справе выкарыстаць тут трэба слова вялікі неспакой — выклікалі везеныя намі кнігі і часопісы. Мы ўзялі дзесятак найменняў друку на падарункі. Спадарыня мытніца ўважліва ўзіралася на вокладкі «Бельскага Сойму Божага Году 1564» Дарафея Фіёніка і Генадзя Семенчука, альбома «Народны ручнік з ваколіц Бельска-Падляшскага» Аліны Дэмбоўскай, Ежы і Катажыны Солубаў, «Беларускага золата» Уладзіміра Хільмановіча, вершаў для дзяцей Міры Лукшы «Падарункі», рэпартажаў Аляксандра Вярбіцкага «Па жвіроўках, асфальтоўках», некалькіх экземпляраў «Нівы» з сёлетнім календаром, і «Году Беларускага», нагадваючу антычны друк, і кніжкі **«Zatańczą ci co drżeli. Polska sztuka krytyczna»** Караля Сянкевіча з выявай маршыруючых голых польскіх салдат. Толькі адна не выклікала іх інтарэсу: «Птушкі без гнёздаў» Ларысы Геніюш. Трымаючы падазроныя публікацыі ў руцэ, з вострым паглядам у вачах, накіроўваючыся да службовай канторкі, спадарыня мытніца кінула ў наш бок пытанне, хоць раней прыняла да ведама тлумачэнні, з якой мэтай мы едзем:

— А вы выпадкам не маеце намеру займацца ў нас ерундой?

Знерваваныя, што ўжо не паспеем у Мінск на цырымонію ўручэння літаратурных узнагарод «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў» і, баючыся, ці нас раптам не завернуць у Польшчу як кантарбандыстаў і падрыўнікоў, прыкладна праз сорак хвілін мы ўбачылі з вокнаў аўтамабіля на абочыне пагранперахода спадара мытніка з нашымі выданнямі. Вяртаючы іх, катэгарычным тонам папярэдзіў:

— У наступны раз прывозіць менш кніг!

На гала-мерапрыемстве «Залатога апострафа» нам не ўдалося дабрацца, занятым зараз за мяжой абменам валюты з купюрай наміналам дваццаць долараў, якая прадаўшчыцы ў пагранічным абменніку не спадабалася, а разглядаць яе ў дэталях ёй не хацелася, бо зараз жа ішла на абедзенны перапынак, і дзіўна працяглай працэдурай з тлумачэннямі пры заключэнні дагавора на выкарыстанне транзіту праз Беларусь адным з платных адрэзкаў дарогі ў Мінск (г.зв. сістэмы **BelToll**). Нечаканымі для нас таксама былі агульныя кошты яе выкарыстання, у тым ліку неабгрунтаваныя — па-мойму — страты, якія з-за гэтага нясе кожны замежны турыст, якога так ахвотна запрашаюць у Беларусь часам нават самыя высокія рангам беларускія чыноўнікі. Аб антытурыстычным прымяненні сістэмы **BelToll** і выцягванні грошай ад турыстаў пры яе дапамозе беларускай дзяржавай — у наступны раз.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Новыя выданні студзіводскага музея



Дарафей Фіёнік прэзентуе юбілейны нумар «Бельскага гостінця» (збоку Уладзімір Гулевіч)



На першым плане бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і айцец Славамір Ярацэвіч

**Музей малой айчыны ў Студзіводах 8 лютага ў мяшчанскім доме запрэзентаваў 50-ты нумар краязнаўча-культурнага зборніка «Бельскі гостінэць», які амаль поўнасцю тычыцца гісторыі Студзіводаў. На працягу звыш 17 гадоў «Бельскі гостінэць» рэдагуе старшыня музейнага аб'яднання Дарафей Фіёнік. Адначасна адбылася першая публічная прэзентацыя кніжкі «Бельскі сойм вялікі Року Божага 1564» аўтарства гісторыкаў Дарафея Фіёніка і Генадзя Семянчука — звольненага нядаўна ўладамі выкладчыка Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Гродне і Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. На юбілей «Бельскага гостінця» і прамоцыю кніжкі былі запрошаны жыхары квартала Студзіводы. Апрача студзіводцаў на сустрэчу прыбылі бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і вікарны святар Пакроўскага прыхода а. Славамір Ярацэвіч.**

Урачыстае спатканне распачаў Дарафей Фіёнік з прэзентацыі пяцідзясятага нумара «Бельскага гостінця». Дапамагаў яму Уладзімір Гулевіч, выхадзец са Студзіводаў, які жыве ў Беластоку, але не парывае сувязей з родным кутком і супрацоўнічае з перыядычным выданнем.

— У дзевяностых гадах я вёў краязнаўча-гістарычныя заняткі ў бельскай «тройцы» і мы вырашылі з вучнямі, што будзем выдаваць школьны бюлетэнь «Бельскі гостінэць». Першы нумар бюлетэня мы растыражавалі на ксераксе. Пасля рашылі, што будзе гэта агульнабельскі часопіс і дапамагаць нам выдаваць яго сталі настаўнікі Марк Хмур і Валянціна Бабулевіч. Загаловак выдання «Бельскі гостінэць» абазначае дарогу ў Бельск. Мы апісваем таксама Нарву, Гайнаўку, Беласток, Брэст, Пінск, Гродна — гарады, дарогі з якіх вядуць у Бельск, — сказаў Дарафей Фіёнік. — Наш часопіс стаў, між іншым, рассаднікам беларускіх журналістаў, паколькі працавалі пры ім Тамаш Суліма — зараз журналіст «Часопіса», Давід Гайко — цяпер журналіст Радыё Рацыя і Тэлебачання Беласток, Міхал Сцепанюк — зараз журналіст Радыё Беласток, а можна сказаць яшчэ пра Жанэту Ролю, якая свае артыкулы публікавала ў «Зорцы». Успамагалі нас прафесар Васіль Белаказовіч, айцец Рыгор Сасна, Ігар Закшэўскі, актыўным супрацоўнікам быў таксама Мікола Якубюк. «Бельскі гостінэць» у галоўным прысвечаны гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў. Мы ўвесь час працавалі і працуем на грамадскіх пачатках. Наш часопіс — папулярна-навуковы і ў ім намнога больш навуковых матэрыялаў, чым папулярных артыкулаў, але змяшчаем апошнія, каб выданне зрабіць больш цікавым. Змест узбагачаем цікавымі здымкамі. У юбілейным нумары знаёмім чытачоў з гісторыяй Студзіводаў, якія насялялі роды Панасюкоў, Петручукоў, Кандрацюкоў, Сахарэвічаў, Асташэўскіх і іншыя.

У часопісе «Бельскі гостінэць» матэрыялы друкуюцца на беларускай, польскай, расійскай (асабліва тыя, з даўнімі дакументамі) мовах і на падляшскай гаворцы. 21 верасня мінулага года Музей малой айчыны ў Студзіводах арганізаваў святкаванні пад лозунгам «Студзіводы — 500 гадоў запісанай гісторыі», паколькі ў 1514 годзе бельскі мешчанін Іван Сегяневіч, пазнейшы бельскі войт, атрымаў ад караля і вялікага князя Жыгімонта І пацвярджэнне права на вечнае валоданне студзіводскай зямлёй, якую атрымаў ягоны дзед Пратас Тышкевіч ад караля Аляксандра Ягелончыка, аб чым можна прачытаць у новым нумары выдання. Змешчаны ў ім матэрыялы пра Бельскі вялікі сойм і тэкст «Студзіводскія радаводы Петручукі — Панасюкі», а ў ім — імёны і прозвішчы каля 300 нашчадкаў Івана Петручука-Панасюка са Студзіводаў, пра-пра-пра-пра-праўнукам якога з'яўляецца Дарафей Фіёнік. Падчас спаткання звярнуў ён увагу на тэксты пра Першую сусветную вайну і Бельскую бітву ды расказаў пра лёсы жыхароў Студзіводаў, якія падаліся ў бежанства.

— Я ахвотна прыходжу на мерапрыемствы, якія арганізуе Студзіводскі музей. Цікавіць мяне гісторыя Студзіводаў, наш фальклор, спорт, палітыка і іншыя справы, — сказала Раіса Якубюк са Студзіводаў.

— Я вельмі рады, што «Бельскі гостінэць» выдаецца ўжо столькі гадоў. У ім можна прачытаць многа цікавых матэрыялаў. Я таксама напісаў некалькі артыкулаў і такім чынам уклаў сваю цаглінку ў выдаванне часопіса. Дарафей стараецца трапіць са сваімі артыкуламі да нашых сэрцаў і пакінуць гістарычныя і фальклорныя матэрыялы для наступных пакаленняў. Мы павінны ведаць кім мы з'яўляемся і знаць нашую гісторыю, — сказаў Уладзімір Гулевіч.

— Я сваімі рукамі і фінансава дапамагаў будаваць музей. Цікавіць мяне, што тут адбываецца і таму прыйшоў на спатканне, — заявіў Ян Фіёнік, бацька Дарафея, які прыбыў на ўрачыстую сустрэчу разам з іншымі прадстаўнікамі свайго роду.

Альжбета Фіёнік звярнула ўвагу на вялікую ангажаванасць вучняў і настаўнікаў бельскай «тройкі», якія разам з Дарафеем пачалі выдаваць «Бельскі гостінэць».

Прэзентуючы нядаўна выдадзеную кніжку «Бельскі сойм вялікі Року Божага 1564» (другую па чарзе з цыкла «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў»), яе сааўтар Дарафей Фіёнік коратка пазнаёміў сабраных са зместам новага выдання. Змяшчаецца ў ім, між іншым, інфармацыя пра найважнейшых удзельнікаў сойма 1564 года і пра Бельск у XVI стагоддзі. У мінулым годзе Дарафей Фіёнік і Генадзь Семянчук арганізавалі ў Бельску-Падляшскім навуковую канферэнцыю «Вакол Бельскага сойма 1564 года» і гарадскія святкаванні.

— У мінулым годзе мы святкавалі 450-годдзе Вялікага сойма 1564 года ў нашым горадзе і гэтай тэме прысвяцілі навуковую канферэнцыю. Калі ўзяць усе гарады ў цяперашнім Падляшскім ваяводстве, то толькі ў Бельску адбыўся Вялікі сойм. Гэта было адно з самых важных здарэнняў, якія адбыліся ў гісторыі нашага горада. Аб такой важнай падзеі трэба гаварыць, пісаць, а тэма Бельскага сойма — вечная, — сказаў Дарафей Фіёнік. — У час Бельскага вялікага сойма быў прыняты «Бельскі прывілей», напісаны на старабеларускай мове — дзяржаўнай мове Вялікага Княства Літоўскага, якая блізкая да цяперашняй мовы падляшскіх беларусаў. «Бельскі прывілей» даў пачатак ІІ Статуту Вялікага Княства Літоўскага, які таксама быў напісаны на старабеларускай мове. Прывілей прыняты ў Бельску ўдасканаліў законы І Статута, прынятага ў 1529 годзе, і на падставе яго ствараліся зямельныя выбарныя суды, незалежныя ад дзяржаўнай адміністрацыі. «Бельскі прывілей» пацвярджаў ранейшыя законы і прывілеі Каталіцкага касцёла і Праваслаўнай царквы, а таксама магдэбургскія правы для ўсіх гарадоў ВКЛ.

У Бельскім сойме ўдзельнічалі польскі кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст і прадстаўнікі ад усіх зямель Вялікага Княства Літоўскага, між іншым, віленскі ваявода і канцлер ВКЛ Мікалай Радзівіл, князь слуцкі Юрый Алелькавіч, падляшскі ваявода Васіль Тышкевіч, кіеўскі ваявода князь Канстанцін Астрожскі, навагрудскі ваявода Павел Сапега, епіскап віленскі Валерыян Пратасевіч, а таксама гетман ВКЛ Грыгорый Хадкевіч, аб чым можна прачытаць у кніжцы «Бельскі сойм вялікі Р.Б. 1564».

— Усё тое, што робіць Дарафей Фіёнік, добрае і патрэбнае. Я прыбыў на юбілей «Бельскага гостінця», у якім многа цікавых артыкулаў, між іншым, аб Бельску-Падляшскім, у састаў якога ўваходзяць Студзіводы. Вельмі добра, што выйшла вартасная кніжка пра сойм. Мы ў мінулым годзе дапамагалі арганізаваць навуковую канферэнцыю і святкаванні 450-годдзя Бельскага вялікага сойма 1564 года, якое праходзіла ў розных месцах горада. Кніжка з'яўляецца падвядзеннем вынікаў мінулагодняй актыўнасці. Добра было б, каб гістарычная інфармацыя пра Бельск дайшла да як найбольшай колькасці гараджан, бо ж Бельскі вялікі сойм — гэта славутае мінулае нашага горада. Я прадбачваю, што на ўроках гісторыі вучні будуць знаёміцца з гістарычнымі падзеямі, што адбываліся ў Бельску і добра было б арганізаваць у школах сустрэчы з Дарафеем Фіёнікам, — сказаў бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, які напомніў сабраным, што нядаўна Дарафей Фіёнік атрымаў узнагароду «Адкрытае Падляшскае ваяводства» за захоўванне традыцый Падляшша і супрацоўніцтва з беларускімі калектывамі і народнымі творцамі з Палесся. Бургамістр Яраслаў Бароўскі таксама адказваў на пытанні аб планаваных інвестыцыях у Бельску-Падляшскім і самых Студзіводах. Жыхары квартала Студзіводы выкарысталі нагоду і звярнуліся да бургамістра з прапановай мадэрнізаваць вуліцу Вясковую, якой, як удакладніў Дарафей Фіёнік, ужо 500 гадоў. Бургамістр Яраслаў Бароўскі і а. Славамір Ярацэвіч павіншавалі рэдакцыйны калектыў «Бельскага гостінця» з выхадам пяцідзясятага нумара часопіса і выданнем кнігі пра Бельскі сойм, жадаючы поспехаў на будучыню. Спатканне закончылася салодкім пачастункам. Студзіводцы вельмі станоўча выказваліся аб дзейнасці Дарафея Фіёніка і яго сямейнікаў па захаванні ад забыцця іх гісторыі, фальклору і па арганізаванні імі цікавых мерапрыемстваў у Студзіводах. У дзень сустрэчы 91 угодкі з дня нараджэння адзначыла Марыя Стэпанюк са Студзіводаў, якая сабраных пачаставала цукеркамі. Дарафей Фіёнік успомніў, што спадарыня Марыя ў мінулым падчас майстар-класаў, якія ў сваіх памяшканнях арганізаваў Музей малой айчыны, вучыла тканню і перадала ў музей свае кросны.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Папаўся хітрун

Аб тым, што лясная звярына робіць шкоды сялянам, не трэба два разы напамінаць. Дзікі, алені, бабры ды лісы так распаўсюдзіліся, што пад забудовы прыходзяць. Кузаўцы, напрыклад, скардзяцца, што за вёскай на Карпінскай гары лісы развяліся і курэй з панадворкаў выкрадаюць. І гэта праўда.

Едучы ранкам на рыначак у Чаромху, а было гэта ў пятніцу 13 лютага, зараз жа за „вузкакалейкай" на вуліцы Каляёвай, насупраць сядзібы Ваўранюкоў прыкмеціў я здалёк нейкі кулёк на асфальце. Падумаў, што нехта сабаку пераехаў аўтамабілем. Але пад'ехаўшы бліжэй распазнаў... лісу. Маладая ліска перабягала, мабыць, праз дарогу і трапіла пад колы аўтамабіля. З пераду галавы відаць было лужыну крыві. Выпадак здарыўся раніцай або ноччу, але звярыны ніхто не прыбраў з дарогі.

— А ты бачыў лісу на дарозе? — пытаў мяне на рыначку Грыша Янушык, сябрук з Рэпчычаў. — Ладная ліска..., — і тут жа прыбавіў з усмешкай: — Папаўся хітрун...

На закупках я затраціў больш дзвюх гадзін. Вяртаючыся дамоў праязджаў я побач нежывой звярыны, ды падумаў сабе: „Чаму дагэтуль ніхто з паляўнічых лісы не прыбраў. Усё ж такі маглі б пацікавіцца. Навокал швэндаецца куча безгаспадарных чатырохногіх, ды нейкі з іх мог бы паласавацца здабычай. А калі ліса была шалёнай?".

**Уладзімір СІДАРУК**

## Цярпі душа

Амаль два месяцы я змагаўся з балючай нагою. З месца не мог варухнуцца. Медсястра прыязджала дахаты даваць уколы. У гэтай справе дыягназ ставілі ратаўнікі хуткай дапамогі, сямейны лекар і яго калега, які заступаў яго на рабоце, хірург, спецыяліст унутраных хвароб, які рабіў УЗІ-абследаванне, артапед. Зрабілі мне рэнтгенаграму пазваночніка. Прасвятлілі, адным словам, з ног да галавы. Калі я падаваўся на чарговы агляд да артапеда 12 лютага, дык спадзяваўся, што гэтай каруселі будзе канец. Але памыліўся. Артапед, паглядзеўшы вынік прасвятлення пазваночніка сказаў: «На вашу хваробу няма лякарства. Гэта ад пазваночніка. Магу адно выпісаць рэцэпт на абязбольваючыя сродкі. Нічога больш».

І што я мог сказаць, даражэнькія, медыку-спецыялісту? Што не пагаджаюся з ягоным дыягназам? Аднойчы ў шпіталі ў Гайнаўцы я намякнуў, неразважліва і незласліва, начальніку аб пэўнай хібе лекара, які абследаваў жонку, дык на другі дзень увесь персанал бальніцы тыкаў мяне пальцамі. Затым не стаў я паўтараць памылку.

Пакідаючы кабінет артапеда ўспомнілася мне раптам народная мудрасць наконт старасці і болю, якую светлай памяці татуль маўляў: «Цярпі душа, будзеш у раі».

**(ус)**




# Сцяпан Копа: песні з Сакольшчыны

**— Няхай гэтыя два зборнікі песень застануцца ў памятку пра спяваючых людзей Сакольскай зямлі!** — кажа збіральнік песень, музыколаг і педагог Сцяпан Копа.




Пабачыў дзённае святло другі том спеўніка «Беларускія песні Сакольскай зямлі». Змяшчае ён у сабе песні ў асноўным з ваколіц Дубровы-Беластоцкай. У гэтай гміне песні былі запісаны ў вёсках Грабяні, Гарасімовічы, Ячна, Крапіўна, Няросьна, Вострава, Рэшкаўцы і Шушалева. Значная колькасць песень таксама паходзіць з гміны Новы Двор, з мясцовасцей Хільмоны-Каленія, Хільмоны-Вёска, пасёлка Новы Двор і Сынкаўцы. Апошнія запісаныя ў гміне Сідра, у вёсках Бернікі, Бярвіха, Сідарка і Залессе. Былі апублікаваны таксама песні, якія не змясціліся ў першым томе гэтай працы — з вёсак Ахрымаўцы і Даўгасельцы ў гміне Кузніца-Беластоцкая ды з Гаркавіч і Піражкоў у гміне Шудзялава. У агульнай складанасці, другі том змяшчае каля 50 песень з дваццаці мясцовасцей. Абодва тамы забяспечваюць поўны агляд музычнай культуры народа, які засяляў гэтую тэрыторыю ад стагоддзяў. Гэтым багаццем больш за трыццаць гадоў таму захапіўся быў Пётр Бароўскі з Варшавы, які ў 1981 годзе зрабіў запісы. Якраз з гэтай гукавой бібліятэкі, якая мае ўжо гістарычнае значэнне, паходзіць значная частка песень, апублікаваных у спеўніку. Пётр Бароўскі на магнітафоннай стужцы запісаў шмат расійскіх песень, гадамі таму на Сакольшчыне вельмі папулярных і ўлюбёных. Разам з беларускімі, польскімі і ўкраінскімі песнямі яны з'яўляюцца неад'емнай часткай музычнага рэпертуару ў гэтым рэгіёне. Песні ў выкананні народных спевакоў маюць свой уласны каларыт — мелодыку, рытм і іншыя музычныя элементы. Таму аўтар зборніка вырашыў — дзеля музычнага ўзбагачэння — уключыць іх у сваю публікацыю. Васямнаццаць надзвычай каштоўных, чыста беларускіх песень, якія былі ўключаны ў спеўнік, аўтар запісаў ад Генрыка Казлоўскага (1926 г. нар.) з Залесся Сідранскай гміны. Запісы былі зроблены 28 жніўня 1998 г. Генрык Казлоўскі паходзіць з вельмі музычнай сям'і, у дадатак з беларускімі традыцыямі. Ягоны дзядзька, бацькаў брат — Уладзіслаў Казлоўскі — Казлоўшчык, як яго называлі ў гэтым старонні — выпусціў у 1930 годзе ў Вільні спеўнік **«Biełaruskija Narodnyja Pieśni z Sakolskaha Pawietu»**. Ён змяшчаў тэксты трыццаці трох песень. Кніжачка выйшла ў выдавецтве «Беларуская Крыніца». Уладзімір Казлоўшчык далучыў таксама рукапісны нотны запіс мелодыі, але «не было магчымасці — пакуль што — друкавацца па тэхнічных прычынах». Тую кніжачку адкрываў вельмі ўздымны патрыятычны ўступ «Да суседзяў з-пад Саколкі».


Сцяпан Копа

Значную частку песень з дзядзькавага спеўніка спадар Генрык узнавіў, дзякуючы чаму яны маглі ў поўным запісе — разам з нотамі — нарэшце ўбачыць дзённае святло, надрукаваныя ў зборніку Сцяпана Копы. Вялікай індывідуальнасцю аўтэнтычнага спявацкага фальклору Сакольшчыны з'яўляецца Надзея Алекша (1922 г. нар.) з Піражкоў Шудзялаўскай гміны. У першы том яна ўнесла каля сарака вельмі каштоўных, старадаўніх песень са сваёй вёскі і наваколльных мясцовасцей. Спявачку выявілі таксама Іаанна Чабан і Галена Пухальская з Крынак, якія, як дуэт «Зараніца», у 2011 годзе запісалі ад яе гэтыя песні і сямнаццаць з іх запісалі на адным з дыскаў свайго калектыву.

У васьмідзясятых гадах XX стагоддзя на тэрыторыі былога павета Дуброва-Беластоцкая ўзніклі і інтэнсіўна працавалі народныя вакальныя групы — «Блаваты» ў вёсцы Няросьна ў гміне Дуброва-Беластоцкая і «Падлясянкі» ў Хільмонах-Вёсцы, «Дважанкі» ў Хільмонах-Каленіі і «Граніца» ў Сынкаўцах — усе тры ў гміне Новы Двор. Найдаўжэй дзейнічалі калектывы з Хільмонаў. Раней спевы былі неад'емнай часткай жыцця мясцовых жыхароў па працяргу каляндарнага года. Пералічаныя калектывы ўжо не функцыянуюць па натуральных прычынах. Старэйшыя адышлі ў вечнасць, а тыя, хто яшчэ жывы — ужо не ў стане працягваць традыцыю спеваў. Моладзі ў вёсках амаль не засталося — такім чынам, няма нікога, хто ўзяў бы на сябе эстафету пакаленняў у гэтым кірунку.

Другі том спеўніка «Беларускія песні Сакольскай зямлі» складаецца з сямі раздзелаў. У параўнанні з першым томам няма ў ім велікодных песень, акрамя «Тонка, велька канапелька» з Ахрымаўцаў Кузніцкай гміны (яна змешчана ў раздзеле «Песні розныя»). У першы раздзел увайшло шэсць старадаўніх, традыцыйных і цікавых дажынкавых песень, да якіх кароткае апісанне абраду з Сакольшчыны было далучана ў першым томе.

Вельмі багатым колькасна (46), і з музычнага боку, з'яўляецца ІІ раздзел «Бяседныя песні», складзеныя ў алфавітным парадку. Тут кожны, хто цікавіцца, зможа знайсці сабе вядомыя і любімыя папулярныя песні, якія будзе ў стане спяваць для сябе ў адпаведных абставінах. Жыхарам паўночнай часткі Сакольшчыны, г.зн. з наваколля Дубровы-Беластоцкай, заўсёды хапала пачуцця добрага гумару. І ў радасныя сямейныя святы, і ў таварыска-кампанейскія сустрэчы. Гэты настрой адлюстраваўся ў дзевяці песнях, уключаных у ІІІ раздзел «Прыпеўкі (Частушкі)». Песні гэтага тыпу можаце знайсці ў VII раздзеле — запісаныя ў чатырох розных меладычных варыянтах — выкананыя дуэтам «Зараніца» з Крынак — узятыя з рэпертуару Надзеі Алекшы з Піражкоў.

У IV раздзеле «Вясельныя песні» творы запісаныя паводле традыцыйнага ходу гэтай прыгожай урачыстасці. Варта тут звярнуцца да адной з вельмі старадаўніх — архаічных — песень «Зялёны барвіночак» з вёскі Бернікі Сідранскай гміны. Марыя Стэфановіч, выконваючы гэтую песню 3 верасня 1998 г. расказвала так:

«Спявалі гэту песню прад вяселлем (шлюбам). Хлопец, які меў жаніцца, хадзіў па вёсцы — прасіў дзяўчат, каб прыйшлі зрабіць вянок. Ну і ўсе прыходзілі — садавілісь за стол. Давалі нам стужкі і голькі зялёнага мірту. Пашылі яму вянок, прычапілі яму да кляпы і спявалі гэтую песню. Тады гэты кавалер то ўжэ нас запрасіў пагасцявацца. Панастаўляў яду і піце. Мы пад'ямо. Падзякуем і пойдзем... Таксамо дзяўчына — Маладая, прасіла дружак. Прыйшлі мы ўсе маладыя — нас много было тады — дзесяць дзяўчат — пашыем той вяночак — паспяваем... Катора Маладая плачэ, катора смяецца... У нас то ўжэ ў нідзелю ўбіраюць Маладую ў вэлён. Прыходзяць дзяўчата, перша дружка, як называлі «па-просту». Дружкі павінны ўбраць Маладую. І приходзяць дзяўчата, якія спяваюць «Зялёны барвіночак», а потым — якія хто ўмее...».

Пяты раздзел складаюць дванаццаць хрысцінных песень, якія выконваліся на розных этапах гэтай сямейнай урачыстасці ў старыя часы. Вельмі багатым таксама ў гэтай працы з'яўляецца VI раздзел «Песні розныя», у якім змясцілася 40 твораў, размешчаных у алфавітным парадку. У гэтым раздзеле таксама апынулася адна з калядак «Бог предвечный народілся», а таксама пахавальная песня «Помінайце міне, браця» з Грабянёў і ўспомненая «Тонка, велька канапелька» з Ахрымаўцаў.

Дзякуючы гэтай публікацыі стала магчымым запісанне тэкстаў і мелодый вельмі каштоўных песень з рэпертуару Надзеі Алекшы з Піражкоў, выкананых на альбоме дуэтам «Зараніца» з Крынак. Гэтыя песні складаюць VII раздзел працы, узбагачваючы музычнае выданне, якое ў спалучэнні з друкаванай формай з'яўляецца гатовай, завершанай, апрацаванай на два галасы рэпертуарнай крыніцай для малодшых пакаленняў. Можна слухаць песень з альбома і адначасова адсочваць запісаныя ў кнізе тэкст і мелодыю.

Сцяпан Копа перадае цёплыя словы падзякі ўсім, хто спрычыніўся да выдання надзвычай каштоўнай кнігі.

— Ратуем такім чынам ад забыцця шмат каштоўных народных песень, якія з'яўляюцца скарбніцай музычнага фальклору Сакольскай зямлі. Дзякую перш за ўсё выканаўцам песень запісаных у спеўніку — тым, хто яшчэ жывы, і схіляю калені перад тымі, хто сышоў у вечнасць. Вялікая падзяка таксама Уладзіславу Петруку за ягоную графіку на вокладкі, і дырэктару Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юрыю Хмялеўскаму за ініцыятыву і ажыццяўленне публікацыі. Вялікая падзяка таксама Міністэрству адміністрацыі і лічбавізацыі за сродкі для гэтай мэты.

**Міра ЛУКША**

# Мінск — Гродна. За кулісамі. (ч. I)

■ Вячаслаў Іназемцаў у спектаклі «Доступ к целу», якім адкрыўся III Форум «Пластформа»

**Мінск. 9 лютага. Вечар. Адліга, якая пераходзіць у прымаразак Тут паслязаўтра лідары Расіі, Францыі, Германіі будуць вырашаць украінскую будучыню. Магчыма.**

— Расія не будзе здавацца. Не даруе. Людзі ў Мінску апасаюцца, што ў нас будзе вайна. І пры тым страшныя цэны ў крамах. Ужо няма як жыць. Апрача хлеба, малака, цыгарэт усё дарагое, больш дарагое, чым у вас. Нават гарэлка падаражэла. Мы прывыклі да таго, што крызісы ў нас што два гады, і цяпер — праз год. Трапіўся цяпер, таму што ў Расіі кепска, і мы залежым ад яе. Лукашэнка шукае зберажэнняў і замежнай валюты дзе магчыма. Быццам бы павялічыў заработную плату, але цэны ў крамах і аплаты розных збораў таксама выраслі, — кажа Уладзімір, з якім я іду амаль па пустэльным падземным пераходзе пад праспектам Незалежнасці, дзе адзін малады чалавек, прыхінуўшыся да сцяны, выйгравае нейкія мелодыі на флейце.

Над пераходам, пад Макдональдсам, якога лагатып на шматпавярховым будынку відаць здалёк, трое маладых людзей нешта горача абмяркоўваюць. Міліцыйны патруль правярае чатырох мужчын, што сядзяць на лаўцы непадалёк. Мы ідзем па Праспекце, рассветленым, здаецца, яшчэ навагоднімі неонамі і рэкламамі банкаў, магазінаў і рэстаранаў. Пасля спуску ў метро спыняе мяне чалавек у форме. Загадвае перайсці мне ў ягоную канторку.

— Што вы маеце ў сумцы? — пытаецца, гледзячы на мой падарожны мяшок з асабістымі рэчамі і кнігамі, якія выклікалі падазрэнне беларускіх мытнікаў некалькі гадзін раней на мяжы ў Баброўніках.

Торба праязджае праз кантрольную стужку. На экране адлюстроўваецца яе змесціва.

— У парадку, — кідае ў мой бок чалавек ва ўніформе.

— А другой не трэба пакласці? — пытаюся я, паказваючы на выпханую торбу перавешаную цераз плячо.

— Не трэба. Калі было б трэба, я сказаў бы! Зразумела?! — адказвае суха і рашуча.

Сядаем з Уладзімірам у цягнік:

— Яны правяраюць кожны большы багаж. Так адбываецца пасля тэракту на гэтай станцыі ў красавіку чатыры гады таму.

Цягнік рухаецца. Дыктар аб'яўляе па-беларуску аб наступнай станцыі. Толькі па-беларуску.

— Да нядаўняга часу аб'ява была яшчэ на англійскай, але цяпер толькі па-беларуску, — Уладзімір тлумачыць мне, заглушываны смехам чацвёркі маладых касавокіх студэнтаў.

Пасля двух прыпынкаў мы выходзім на станцыі Інстытут культуры.

### 500 еўра за замежніка

Тралейбусны прыпынак далей, над уваходам у Палац чыгуначнікаў вітае банер «Plastforma. Трэці Адкрыты форум Эксперыментальных мастацкіх тэатраў». Праз момант запуск гэтага ўнікальнага праекта ў Беларусі. Яго заснавальнікам і галоўным арганізатарам з'яўляецца Вячаслаў Іназемцаў, танцор, харэограф, рэжысёр, акцёр, тэатральны педагог, лідар культавага ўжо ў Беларусі незалежнага тэатра руху «ІнЖэст», які пачаў сваю дзейнасць у 1980 годзе. У гэтым годзе запрошаны на шасцідзённае мерапрыемства тэатры танца і шырока разуметага руху з Мінска, Гродна, Магілёва і Польшчы (Люблінскі тэатр танца), Латвіі, Літвы і Расіі, а таксама сумесныя праекты — беларуска-шведскі і беларуска-ўкраінскі. Дэманстрацыі — таксама ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, які я планую наведаць на наступны дзень — суправаджаюць урокі-прэзентацыі і сустрэчы з вядомымі харэографамі з-за межаў Беларусі. Форум пачынаецца спектаклем «ІнЖэста» — «Доступ к целу. Біяграфічная фантасмагорыя». Яго прэм'ера адбылася ў 2010 годзе з выпадку 35-й творчай гадавіны Вячаслава Іназемцава, яго рэжысёра і галоўнага выканаўцы. Гэтае прадстаўленне аб спектаклях, якія сталіся тэатрам і тых, якія ў канчатковым выніку не ўзніклі, аб памяці, марах, фантазіях, але і аб творчым шляху Славы, пераплеценае гісторыяй Беларусі. Пасля спектакля ў Палацы чыгуначнікаў перакінемся некалькі словамі з гэтым легендарным мастаком:

— Не называемся фестывалем, толькі форумам. Гэта такі хітрык, бо ёсць законы ў Беларусі, якія дакладна кажуць, што можа быць фестывалем, а што не. У назве адзначаем, што з фармальнага пункту не без значэння, што мы — адкрыты форум, не зачыняемся толькі на беларускія групы, але з акцэнтам на беларускія групы і тое, што хочам развіваць гэты мастацкі кірунак якраз у Беларусі. Форум патрэбны, каб разгледзець, што рабіць далей, калі няма для беларускага эксперыментальнага пластычнага тэатра ніякай базы. Тэатр, які заснаваны на розных эксперыментальных сцэнічных метадах: і дакументальны тэатр, і выкарыстоўваючы слова, і чысты танец. Я зацікаўлены ў такім тэатры, у якім выяўляешся з дапамогай фізікі чалавечага цела, але і прадметаў або прасторы. У тэатры самае галоўнае дзеянне. Калі я пачынаў, не было ніякага паняцця сучаснага танца, але ўжо тады былі групы пантамімы, такія выспы авангарду, дзе спрабавалі не толькі пантаміму, якой займаўся, напрыклад, Марсель Марсо (французскі мім з шырокім прызнаннем як вядучы прадстаўнік пантамімы ў гісторыі — М. Х.), але ўсіх магчымых форм: ад мастацкага руху ў імправізацыі, мадэрн-танца і тэатра абсурду да чорнай клаўнады. Было многа такіх груп, асабліва ў 80-х гадах. У 90-х дзесяці ўсе прапалі, асабліва ва ўмовах эканамічнага ціску. У 1987 г. толькі ў Мінску было дзесяць такіх груп. Дзе яны цяпер? Няма. І самі людзі хочуць індывідуальна такой формай тэатра займацца, дык трэба іх сабраць, каб дзейнічаючы ў адзіночку не пагубіліся, хаця б нават па фармальна-арганізацыйных прычынах. Такі Форум гэта часам адзіны шанц для маладых людзей, каб, нарэшце, маглі паказацца, выйшлі з падвалаў.

Успамінае:

— Для мяне, чалавека творчага, самы цікавы перыяд у жыцці Беларусі гэта час перабудовы, калі старая ўлада была слабая, і ўжо адыходзіла, не мела сілы супрацiўляцца, і ў тых, хто яе не любіў, была велізарная энергія. Мы выходзілі на вуліцу, рабілі мастацкія «хуліганствы»: ладзілі хепенінгі, а міліцыя стаяла і не ведала, што рабіць. Часам нават міліцыя спыняла нас, але потым адпускала, не больш чым з 10-рублёвай карай. Цяпер гэта немагчыма. Калі б я зрабіў нешта падобнае, у тры хвіліны мяне б арыштавалі і адправілі з воўчым білетам.

Зала Палаца чыгуначнікаў запаўнялася гледачамі, але не да краёў, у асноўным маладымі. Кас па білеты на пастаноўкі Форума таксама ў наступныя дні не штурмавалі натоўпы. Шмат высветліла мне тлумачэнне Славы:

— Квіткі на спектаклі нашага форуму дарагія нават для Мінска. Гледачы павінны заплаціць за квіток на спектакль, пералічыўшы на залатоўкі, прыкладна 40 злотых. Танней нельга, таму, што па-за ўсімі аплатамі (рэклама, арэнда, тэхнічнае абслугоўванне і г.д.) я павінен адвесці дзяржаве 9 мільёнаў рублёў (каля 500 еўра — М. Х.) за дазвол на тое, што выступаюць у нас замежнікі. Такі дазвол можа даць спецыяльныя камісія па культуры і ідэалогіі ў гарвыканкаме. Дарэчы, можа яго не даць, калі нейкае прозвішча выступаючага акцёра не спадабаецца, а ёсць у Беларусі чорны спісак замежнікаў, у тым ліку забароненых мастакоў. У мінулым годзе мы былі вымушаны адмяніць з-за гэтага адзін дзень працы Форуму.

*(працяг будзе)*

Мацей ХАЛАДОЎСКІ



## Зімою ў Крынках

— Што прапануеце школьнікам у час зімовых канікул? — звяртаецца да дырэктаркі дома культуры аднаго з паветовых гарадоў нашага ваяводства рэпарцёр Радыё Беласток.

— Дзве гадзіны ў дзень гульняў з інтэграцыйнай хусткай, інтэграцыйныя забавы... — пералічвае няўпэўненым голасам жанчына.

Слухаць немагчыма, радыёрпрыёмнік выключаецца.

Бягом да Гміннага асяродка культуры ў Крынках, які змяшчаецца ў адным з жыдоўскіх дамоў па вуліцы Гарадзенскай. Зараз пасля вайны ў згаданым будынку зрабілі дом настаўніка, у які пасялілася тагачасная дырэктарка пачатковай школы Марыя Рышава з мужам Генрыкам — строгім настаўнікам рускай мовы. Праз нейкі час у будынку вяліся таксама школьныя заняткі. Потым размясціўся ў ім у клуб „Прэса-кніжка-рух". Цяпер у двух пакоях таго ж будынка на працягу двух тыдняў, за выключэннем нядзель, ад поўдня да сямі гадзін вечара цісканіна як на вясковым вяселлі. Хто старэйшы, прыходзіць сюды сам, малодшых прыводзяць бацькі, каб спакойна вярнуцца да сваіх штодзённых абавязкаў, ці проста адпачыць перад тэлевізарам. Сталы ў невялікай зале то ссоўваюць, то рассоўваюць. Вось, дырэктарка Альжбета Чарэмха, вядучая ўсе зімовыя заняткі, выцягвае сталы на сярэдзіну, ставіць адзін пры адным і засцілае кучамі старых газет. Дзеткі ахвотна бяруцца за фарбаванне з паперы лясных жывёлак — у Олінага зайчыка нават акуляры паявіліся. Праца гарыць у руках, толькі шум ідзе. Старэйшыя памагаюць малодшым, асабліва пры абклейванні папяровых фігурак глінай. Потым трэба будзе іх памаляваць. А цяпер сталы, як калісь у вясковай хаце на вечарках ці вяселлях, вяртаюцца пад сцяну. Сярэдзіна залы запаўняецца крэсламі для публікі на час канцэрта. Аказваецца, што не ўсім хапае месца, таму старэйшыя дзяўчаты бяруць на калені малодшых. Спадарыня Эля да вялікай калонкі падключае сапраўдны мікрафон — адбудзецца мерапрыемства тыпу „Мікрафон для ўсіх". Выканаўцаў больш, чым на сакольскіх эліміцыях „Беларускай песні". Гучнымі апладысментамі ўзнагароджваюцца толькі што выявіўшыя сябе салісты, дуэты, тэрцэты і цэлыя калектывы. Спеў дзетак раздаецца па ўсёй вуліцы Гарадзенскай. Зараз з'яўляюцца і бабулькі з суседніх хат. Ім таксама цікава паслухаць хто ж гэтак спявае.

У дом культуры ўваходзяць ветэраны — стваральнікі новага крынскага калектыву „Лотасы". Бадзёрыя, вечна маладыя хлопцы імпануюць бегаючым кругом іх дзеткам сваёй ігрой на вялікай перкусіі, залатой трубцы, электрычнай гітары і акардэоне. Атмасфера сапраўды быццам з вясковай забавы 1960-х гадоў. Вось, пры гуках капэлы праходзіць турнір карасінкі. Хто іграе, а хто з-за недахопу карт і месц за столікамі толькі ўзіраецца на гульцоў. На тры гадзіны дня быў запланаваны перапынак, у час якога дзеткі павінны вярнуцца да сваіх дамоў на абед. Амаль ніхто перапынкам не пакарыстаўся.

— Эля, ці ты сёння нешта перакусіла? — пытаю занятай ігрой у карасінку спадарыню дырэктарку.

— Ну, дзеткі, пара дахаты, трэба нам падлогу памыць, — загадвае спадарыня Эля. — Толькі не забудзьцеся прынесці заўтра пластмасавыя бутэлькі для кармушак і зерне птушкам; хто можа, хай прынясе саланіну.

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Настаўніца



Альжбета Раманчук (першая злева)

Шэсць гадоў таму пачалася мая прыгода з беларускай мовай. У мяне цёплыя ўспаміны пра настаўніцу Альжбету Раманчук. Яна заўсёды ведала як зацікавіць вучняў беларускай мовай. Заняткі былі сапраўды цікавыя — розныя гульні, якія дапамагалі запомніць колеры, лікі і тое, што знаходзіцца ў класе. Іх нават немагчыма пералічыць. Заняткі заўсёды былі пасля ўрокаў. У той час мае бацькі працавалі і не было каму завесці нас у школу. Настаўніца хацела, каб беларуская мова была нам родная і блізкая. Яна прапанавала нам, што будзе за намі прыязджаць і адвозіць дадому. Так і было, мы разам дабіраліся ў школу і са школы. У дарозе слухалі песень, калядак, часам супольна спявалі.

Калі я навучылася беларускай мове, не маю паняцця. Усё прыйшло мне натуральна — словы, літары, песні. Цяпер часта вяртаюся думкамі да дзіцячых часоў. Найбольш запомніліся мне гульні ў колеры і агародніну. Вучні з настаўніцай сталі ў коле, настаўніца гаварыла колер, а ўсе іншыя шукалі гэты колер навокал сябе. У агародніну гулялі так: кожны быў прыпісаны адной агародніне і трэба было назваць новую, каб яго — «вучня» — не зварылі ў супе. Гулялі ў сям'ю, дзе кожны мог быць старым дзедам, бацькам, а нават хатняй жывёлай. Мы нават тады не былі поўнасцю свядомыя як цікава было нам вучыцца!

Запамяталася таксама чытанне прыгод мышкі «Пік-Пік», розныя інсцэніроўкі, падрыхтоўка да дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова».

Кожны ўрок быў унікальным падарожжам у свет, з якога мы выводзімся. Мы адкрывалі жыццёвую прастору беларуса, сваю Малую Айчыну, пачыналі разумець адкуль мы і хто мы. Мой дзіцячы свет узбагаціўся дзякуючы заняткам беларускай мовы, а праця быў у хаце, дзе гаварылі мы на беларускай гаворцы — па-простy.

У гімназіі ўрокі беларускай мовы былі абсалютна іншыя, але таксама незабыўныя. Хто хацеў больш ведаць пра Беларусь і беларускую мову, заўсёды меў магчымасць папоўніць веды і карыстацца не толькі падручнікам. У гімназіі мы займаліся больш граматыкай і паэзіяй, геаграфіяй і гісторыяй, а таксама традыцыямі ў практычны спосаб. Думаю, што дзякуючы камернай колькасці ўдзельнікаў усё нам атрымалася. Тут было інакш як на іншых уроках. Мы самі пісалі інсцэніроўкі, пасля выступалі з беларускім жывым словам у школе і па-за школай: у прадшколлі, пачатковай школе, гімназіі, Гарадоцкім доме культуры. Я была бабулькай, мышкай «Пік-Пік», калядніkам.

Цяпер вучуся ў беластоцкім ліцэі. У маёй школе няма ўрокаў беларускай мовы. Але гэта не канец маёй прыгоды з беларускай мовай, гэта сам пачатак! Мая настаўніца заўсёды мне дапамагала і цяпер таксама дапамагае. Мы сустракаемся ў гарадоцкай гімназіі. Там можна пагаварыць з настаўніцай пра розныя рэчы, не толькі пра школу. Хто ведае, дзе далей павядзе мяне жыццё? Настаўніца смяецца, кажа, што я напэўна буду займацца беларускай мовай. Яна мне паказала, што вельмі важнае ведаць і шанаваць свае карані. Цяпер я больш разумею гэтыя словы. Дзякую Вам, спадарыня Альжбета Раманчук!

**Патрыцыя Карлаў**,
II Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку

*Міра ЛУКША*

## Грыбочкі

*Быццам на лясной паляне,*
*Ля дарожак пад кустамі,*
*Пасядалі ўсе грыбочкі*
*На тапчан адным радочкам.*

*Прыпеў:*
*Што там сцежкі,*
*Што дарожкі!*
*Нам баляць грыбныя ножкі.*
*Адпачыць нам хоць бы трошкі,*
*Каб вярнуцца на дарожкі.*

*Гэй, лянівыя грыбочкі,*
*Прыбягайце пад дубочкі,*
*Бо ўсе дрэвы і ўсе сцежкі*
*Хочуць мець хоць сыраежку!*

*Адпачылі, як хацелі,*
*Капялюшыкі надзелі*
*І пабеглі з рукзакамі*
*Заняць месца пад кустамі.*



Якуб МАТЫШЭК
Сабалева, ПШ імя Кірыла і Мяфодзія ў Беластоку

## Калісьці

Калісьці я перажыў дзіўную гісторыю. Я пайшоў у школу, але яна была зачынена. Я стукаў у шыбу, але ніхто не выйшаў. Я вельмі здзівіўся. Што ж такое здарылася? Я не ведаў, што рабіць. Патэлефанаваў бацьку.

Аказалася, што было свята і ўсе вучні нашай школы былі ў царкве.

## Загадкі з роднай хаткі

# УВАГА КОНКУРС! № 8-15

Ішла пані ўначы,
Згубіла ключы.
Месяц бачыў,
не падняў,
Сонца ішло,
падняло!
Р...

Бочка без накрыўкі
і без дна,
а ў ёй
два сорты віна.
Я...

Поўная бочка
круп,
а на верху
струп.
М......

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 1 сакавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

(Падказку можаце знайсці на сайце архіва Сустрэч „Зоркі": http://www.e-zorka.pl, прысвечанымі Сустрэчам „Зоркі" ў Меляшках у 1995 г.)

Адказ на загадкі 4-15: хмары і дождж, снег, дзядоўнік. Узнагароду, кампакт-дыск з фільмам „Легенды Нясвіжскага замка", выйграла Агнешка Саўчук з Гайнаўкі. Віншуем!

Караліна КАРАВАЙ, Гімназія ў Нараўцы

# Максім і Сашка (ч. 4)

Разам з узыходам сонца каню вярнуўся апетыт. Ён на хвіліну падняў галаву, каб дастацца да сена, але відаць было, што ён яшчэ вельмі слабы. На кожны дотык Максімавай рукі ўздрыгваў, як бы не ведаў, ці гэтая рука яго супакойвае, ці хоча яго пакрыўдзіць. Відаць, ён добра памятаў боль, які нанёс яму іншы чалавек.

Максім не хацеў прымушаць каня да нічога. Увесь час яго даглядаў, а сам амаль замяніўся ў лясного чалавека. Штодня прыносіў ежу са штораз далейшых кармушак, а конь здаравеў з дня на дзень, яго раны таксама хутка зажывалі.

У адзін вечар, калі Максім распальваў агонь, здарылася тое, чаго ён чакаў ад многіх дзён. Дагэтуль недаверлівы і недаступны, амаль дзікі конь падняў галаву і дакрануўся галавой да пляча свайго збаўцы. Мужчына адвярнуўся, працягнуў руку і далікатна пагладзіў, у знак згоды, яго па галаве. Стварэнне, крыўджанае гадамі, адарыла Максіма даверам. Давер каня, якому людзі задавалі боль, і добрае сэрца чалавека, які трыццаць гадоў скрываў у сабе крыўду, стварылі між імі моцную сувязь.

— Сашка, ты прыйшоў да мяне. Так, так я цябе назву, на памяць майму сябру, — сказаў радасны Максім.

Слёзы ціснуліся дагэтуль нязломнаму, цвёрда стаяўшаму на зямлі чалавеку. Толькі цяпер ён усвядоміў, як моцна патрабаваў ён такога здарэння, якім пустым было ягонае жыццё і думкі, якую моцную крыўду ён скрываў у сваім сэрцы ад дзясяткаў гадоў аж да гэтай пары. Гэтае здарэнне прымусіла яго пакінуць гнеў.

Міналі наступныя дні. Сашка дужэў. Ужо як апантаны бегаў па лесе, а яго чорная поўсць набрала даўняга бляску. Штодзень часаная грыва стала мяккай і шаўковай, ад ранаў не было амаль следу. Хаця Максім час ад часу вяртаўся ў хату, то жыццё ў пустым доме не прыносіла яму задавальнення. Яму хацелася вяртацца ў лес, да сябра, да таго, каму ён патрэбны.

Каня клікаў да сябе доўгім свістам, а Сашка кожны раз прыбягаў у тое месца, дзе яны сустрэліся. Ён не бег, ён проста ляцеў быццам на крылах, узрадаваны сустрэчай са сваім панам. Хадзіў за ім як цень, гледзячы на свайго апекуна пяшчотнымі вачыма.

Пушча, якую дагэтуль Максім лічыў змрочнай і недаступнай, стала яго другім домам. У адлеглых, цёмных нетрах угледзеў прыгажосць, якой ніколі дагэтуль не бачыў.

Сёння, калі Максім засвістаў, не ўчуў гучнага іржання ці грукату капыт. Яго сэрца раптоўна агарнула трывога. Засвістаў яшчэ два разы, за кожным разам гучней. Раптам пачуў голас каня, той сам пранізлівы віск, калі звер быў ахвярай ваўкоў. Мужчына хутка паспяшыў у напрамку голасу. Не адчуваў ужо нават болю ў назе. Чуў толькі гучнае лякатанне сэрца. Раптам на палянцы ўбачыў Сашку. Не атакавалі яго ні ваўкі, ні ніякая іншая жывёла. Гэта было штосьці горшае — чалавек. Мужчына цягнуў каня да сябе на доўгім пастронку. Максім крыкнуў на яго, прытвараючыся, што не ведае жывёлы.

— Што вы робіце з гэтым канём?

— Уцёк мне гэты чорт, некалькі месяцаў таму. Падла, хаваўся па лесе, а я думаў, што ён даўно здох.

*(працяг будзе)*

# ЯК САБАКА ШУКАЎ СЯБРА

## *(бурацкая казка)*

Даўным-даўно жыў сабе ў лесе сабака. Абрыдла яму самота, пайшоў ён шукаць сябра. Сабака хацеў, каб яго сябра быў наймацнейшы ў свеце, каб перад нікім не дрыжаў, не баяўся. Ён сам баяўся ваўка, таму падумаў, што воўк наймацнейшы. Прыйшоў да ваўка і кажа:

— Я хачу з табой разам жыць!

— Давай! — кажа воўк. — Толькі трэба мяне слухаць!

— Згодны!

Сталі яны жыць-пажываць. Аднойчы ноччу сабака пачуў шорах і давай брахаць.

— Не брашы! — усхваляваўся воўк. — А то прыйдзе мядзведзь і нас падушыць.

«О-го!» — думае сабака, відаць, мядзведзь наймацнейшы.

Кінуў ён ваўка і пабег шукаць мядзведзя.

Знайшоў касалапага і просіць:

— Мядзведзь, давай разам жыць!

— Разам дык разам, — прабурчэў мядзведзь.

Сталі яны жыць-пажываць. Аднойчы ноччу сабака зноў пачуў шорах ды пачаў брахаць. Мядзведзь спалохаўся і зароў:

— Маўчы, дурны! А то пачуе леў, прыйдзе да нашай бярлогі і з'есць.

«Значыць мядзведзь не самы моцны на зямлі, калі ён ільва баіцца, — думае сабака. — Відаць, леў з усіх на зямлі наймацнейшы».

Пабег ён шукаць ільва. Знайшоў ды кажа:

— Леў, давай разам жыць!

— Можна паспрабаваць, — адказаў леў.

Сталі яны жыць-пажываць. Ноччу сабака зноў пачуў шорах, стаў брахаць. А леў кажа яму:

— Не брашы, дурны асталопе! А то прыйдзе яшчэ чалавек з сякерай, заб'е мяне і цябе.

«Відаць леў не такі ўжо моцны, калі баіцца чалавека», — падумаў сабака.

Пабег ён шукаць чалавека. Знайшоў яго ды папрасіўся ў сябры:

— Чалавек, давай будзем разам жыць!

— Добра, — кажа чалавек, — будзем жыць разам.

Аднойчы ноччу сабака пачуў шорах і стаў брахаць. Чалавек прачнуўся і кажа:

— Галасней брашы! Галасней!

Сабака зразумеў, што чалавек самы моцны на свеце. З той пары сабака жыве разам з людзьмі і верна ім служыць.

*(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)*

# Польска-беларуская крыжаванка

№ 8-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 4:**

Неба, ява, аса, метал, шмат, карнавал, маскарад, ах, фрак, тэма.

Узнагароды, «валянцінкавыя» алоўкі (з сэрцайкам), выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Юлія Календа, Магда Рошчанка** з Бельска-Падляшскага, **Якуб Кур'яновіч, Юлька Пашкоўская, Карнелія Порац, Тымэк Петручук** з Нарвы, **Магдалена Мішчук, Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Тамаш Галёнка** з Гайнаўкі.

Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▶ | | | Wzrost | ▼ | Fakt | ▼ | Korona / Raj |
| Sęk | Znak | Raj | ▼ ▶ | | | | ▼ |
| Wzrok ▶ | ▼ | ▼ | | | Radar | | |
| Nastrój ▶ / Strona internetowa | | | | | | | |
| ▶ | | | | | | | |
| | | | Brat ▶ | | | | |

# Вершы Віктара Шведа

## Карткі -Валянцінкі

— Ці ёсць карткі паштовыя,
Валенцінковыя,
Карткі салаўіныя
Для маёй адзінае?

— Мець карткі-Валянцінкі
Нашым абавязкам!
— Дык мне тры адзінкі
Прадайце калі ласка!

## Нельга пераймацца

Скардзіцца сыну тата:
— Не выйграў у латарэі.
А думаў, будзе свята,
Прапала надзея.

— Нельга так пераймацца
Выйгрышам аніколі,
Быццам з кантрольнай працай
Па матэматыцы ў школе.

## Ці дарасла да кніжкі?

Хоча пазычыць Аня
Кніжку да пачытання.
Пытае бібліятэкар:
— Ці адпавядае векам?

І тут за хвілінку
Азвалася дзяўчынка:
— Ці кніжку я атрымаю,
Да якой яшчэ замалая?

## Прыехала з вёскі бабуля

Прыехала з вёскі бабуля,
Сустрэла яе ўнучка Уля.
— Мама наводзіць парадкі,
А ў працы яшчэ наш татка.

Як толькі прыйдзе дадому
Будзе ў нас свята, вядома.
Сказаў, што нам трэба толькі
Да шчясця бабы Антолькі.

# Між заходнімі і ўсходнімі вучонымі

Калі на Беласточчыне шаша між Беластокам і Сямятычамі разглядаецца ў якасці сімвалічнай мяжы паміж мясцовымі Усходам і Захадам, то гэтак жа трэба было б бачыць шашу між Ласіцамі і Міжырэчам-Падляшскім, адно не цяпер, толькі прынамсі стагоддзем раней. Цяпер ад той сімвалічнай мяжы асталіся нейкія кволыя рэшткі ў гістарычных згадках і яшчэ кволейшыя сляды ў тамашнім краявідзе.

У мінулае, каб высветліць працэс вывятрывання тых слядоў, заглянуць цяжка, бо гісторыкамі, якія займаюцца даследаваннем даўніх грамадска-канфесійных дачыненняў на левым баку Буга, з'яўляюцца, як мне здаецца, вядомыя з купалаўскіх „Тутэйшых", „усходнія вучоныя" і „заходнія вучоныя". Вядома адно, што так там, як і з нашага боку Буга амаль паўсюдна ранейшыя праваслаўныя прыходы — адны раней, іншыя пазней — прынялі пастановы Берасцейскай уніі.

Вяртанне ж нашчадкаў тых першых уніятаў у праваслаўе адбывалася менш плаўна. Вось як гэта апісвае адзін з расійскіх парталаў; спярша ў нас: «12 февраля 1839 г. собор униатских архиереев и высшего духовенства, собравшийся в неделю православия в Полоцке, составил торжественный акт о присоединении униатской церкви к православной и всеподданнейшее прошение о том государю с приложением 1305 подписей духовных лиц. 25 марта государь написал на этом прошении: „Благодарю Бога и принимаю". За пастырями присоединилось к православной церкви и все полутора миллионное униатское население указанных епархий. Радость воссоединения выразилась торжественными богослужениями бывшего униатского духовенства с древнеправославным в Витебске, Орше, Полоцке, Вильне. В память воссоединения выбита была медаль с надписью на одной стороне: „Отторженные насилием (1596) воссоединены любовью (1839)", с другой — под ликом Спасителя на убрусе: „Такова имамы Первосвященника"». Той жа партал пра пазнейшыя падзеі ў Забужжы: „После воссоединения униатов Белоруссии и Литвы уния оставалась еще в Привислянском крае, в униатской Холмской епархии. В 1874 г. государь император выразил свое согласие на воссоединение. После этого в январе 1875 г. в Седлецкой губернии воссоединилось с православной церковью до 50 000 униатов, а 18 февраля в Холме собрался собор духовенства и составил акт о воссоединении всей Холмской епархии. 11 мая, в день свв. Кирилла и Мефодия, последовало самое торжество воссоединения". Што змянілася? Сённяшні *государь император* таксама ж рады *воссоединению*...

У Моставе, адлеглым ад Міжырэча каля пятнаццаці кіламетраў, дзе пачынаю сваю вандроўку, раней была ўніяцкая парафія. Яна была заснавана каля 1700 года, калі туды быў перанесены будынак касцёла з суседняга Гушлева. Мостаўская царква атрымала арганы, але не мела іканастаса. Ласіцкі гісторык Тамаш Дабравольскі: „Parafia [pod wezwaniem św. Barbary] funkcjonowała do roku 1872, czyli do wypędzenia przez władze carskie dotychczasowego proboszcza. Wraz z wprowadzeniem do świątyni prawosławnego kapłana parafia formalnie przyjęła schizmę. W 1904 roku władze carskie rozebrały starą świątynię i w jej miejsce pobudowano ze środków państwowych nową, również drewnianą, cerkiew prawosławną. W 1915 roku w czasie wycofywania się na wschód wojsk carskich, dzwony zostały zdjęte i wraz z popem oraz z siedmioma rodzinami prawosławnymi (35 osób) wywiezione do Rosji. W 1918 roku dotychczasowa cerkiew prawosławna została wyświęcona przez proboszcza huszlewskiego i przejęta przez katolików (na miejscu w tym czasie pozostała znikoma liczba wyznawców prawosławia). Obecny murowany kościół parafialny wzniesiony został w latach 1927-1937".



Касцёл у Моставе

Каля сямі кіламетраў на захад ад Мостава знаходзіцца мясцовасць Прухенкі. Тамаш Дабравольскі: „Nie posiadamy bliższych informacji o dacie powstania cerkwi pw. Protekcji (Opieki) NM Panny, ufundowanej przez panującego wówczas na tronie królewskim. Rejestr pomiary włócznej z 1560 roku informuje, że paroch Michałowski posiadał dwie włóki ziemi". У 1611 годзе з'явілася заява ў мельніцкі замак пра пажар прухенскай плябаніі: „Wiadomo czynię, isz pop na imię Wołos z Prochenki uczynił przysięgę cielesną przede mną Apolinarem Skiwskiem, poborcą ziemie Mielnickiey, iako dom iego ze wszystkiem przy cerkwi Prochenskiej pogorzał". Зборшчык вызваліў святара ад падатку. Тамаш Дабравольскі: „W okresie potopu szwedzkiego cerkiew została doszczętnie zniszczona. W 1669 roku król Michał Korybut Wiśniowiecki ufundował nową świątynię wyposażoną w organy. Ta w znacznym stopniu uległa zniszczeniu w okresie wojny północnej w roku 1704. Nowa cerkiew została wzniesiona w 1777 roku. W 1915 roku podczas krwawych walk w okolicach Międzyrzeca, cerkiew została trafiona pociskiem artyleryjskim i spłonęła. Obecny kościół parafialny murowany wybudowany został w latach 1989-1992".




Іншы „акт о воссоединении"



Касцёл у Мшане

Калі „ўсходнія вучоныя" пішуць пра „торжество воссоединения" ў палове мая 1875 года, то пра падзеі ў некалькі тыдняў ранейшыя пішуць „заходнія вучоныя". Katolickie Radio Podlasie: „W 1874 roku unicki ksiądz z Próchenek przyjął prawosławie i próbował odprawiać nabożeństwa według prawosławnej liturgii. Przeciwstawili się temu wierni, za co obłożono ich karą pieniężną. 15 lutego 1875 roku do Próchenek i pozostałych wsi tej parafii przybyły dwie roty piechoty i cztery sotnie kozaków. Przybysze stanęli na kwaterach u unitów, co oznaczało doszczętne złupienie zapasów i wyrżnięcie trzody. Zmęczeni pobytem wojska unici zostali zgromadzeni przed szkołą, gdzie musieli odpowiedzieć na pytanie, czy przyjmą prawosławie. Gdy wszyscy odpowiedzieli, że nie, Rosjanie zastosowali sprawdzoną już w innych unickich parafiach procedurę. Codziennie, przez prawie dwa tygodnie wszyscy dorośli otrzymywali po 100 nahajek, młodzież od lat 15 — po 50. Bito nawet chorych, których codziennie dowożono na plac kaźni furmankami. Te krwawe represje trwały do 6 kwietnia, kiedy to utrudzeni swym katowskim rzemiosłem żołnierze odeszli do koszar. Pozostawili ogołocone z trzody i sprzętów zagrody, pobitych i schorowanych mieszkańców parafii". У выніку памерла пяць асоб, а восем было вывезеных у Сібір.

У Прухенкі мне не было па дарозе, затое было мне па краёвай дарозе № 19, што злучае Беласток з Люблінам, дабрацца ў мясцовасць Мшана, што ў шасці кіламетрах ад Ласіцаў: там таксама раней была царква. Дакладна невядома, калі ў Мшане быў заснаваны першы прыход, аднак існаваў ён ужо ў 16-м стагоддзі, значыць да заключэння Берасцейскай уніі. Падзеі ў Мшане набіраюць дынамікі пасля Студзеньскага паўстання. Тамаш Дабравольскі: „Po likwidacji unii i utworzeniu parafii prawosławnej, rząd carski przeznaczył znaczne fundusze na remont cerkwi. Po carskim ukazie tolerancyjnym 1905 roku większość parafian, dawnych unitów, przeszła do kościoła rzymskokatolickiego. Nie licząc sie z tym faktem, władze carskie w roku 1914 wzniosły nową murowaną cerkiew w stylu bizantyjskim obok stojącej starej drewnianej świątyni. W celu sfinansowania tej budowy ówczesny proboszcz parafii Mszanna, Malinin, za zezwoleniem władz wyjechał do Moskwy, gdzie rozpoczął zbieranie pieniędzy. Akcja ta przyniosła znaczne fundusze, a brakująca kwota została pokryta ze skarbu państwa. Wybuch I wojny światowej i wycofanie się wojsk rosyjskich w 1915 roku wraz z pozostającą jeszcze przy prawosławiu garstką wiernych spowodowały zaprzestanie działalności parafii prawosławnej". У 1917 годзе храм занялі каталікі, а ў 1925 годзе была там створана каталіцкая парафія. Сам касцёл надта экуменічны: у званіцы дах тыповы для лацінскіх культавых збудаванняў, затое сігнатурка — вельмі візантыйская...

У Мшане таксама было неспакойна; Katolickie Radio Podlasie: „Po raz pierwszy z carskim aparatem represji unici z Mszanny zapoznali się w 1867 r. Na Podlasiu odbywało się wtedy tzw. „usuwanie łacińskich naleciałości" z unickich cerkwi. Operacja polegała na tym, że pod osłoną wojska i żandarmów ze świątyń grekokatolików wyrzucano wszystko to, co odróżniało je od prawosławnych cerkwi. Unici nie przyjmowali tych zmian, najoględniej mówiąc, z entuzjazmem. Opór unitów powodował przybycie wojska i żandarmów. Tak było w Mszannie, gdzie parafianie przeciwstawili się wyrzuceniu organów z ich cerkwi. Już w 1867 r. otrzymali za to porcję nahajek, zaludnili cele więzień. Nie obyło się też bez kar finansowych, rujnujących zupełnie gospodarzy. [W 1871 r.] do Mszanny przybył wyznaczony przez władze prawosławny duchowny. Jednak parafianie nie wpuścili do cerkwi nowego pasterza, a szczególnie mocno przeciwstawiły mu się kobiety. One właśnie stały się ofiarami bestialskiego bicia przez kozaków i żandarmów. Bicia tak dotkliwego, że prowadzącego do śmierci. To nie był jednak koniec szykan. Parafia musiała też utrzymać trzy roty piechoty i 200 kozaków, którzy przybyli tu na leże. Jako że cała parafia liczyła wówczas ok. 800 wiernych, to wynika z tego, że każde gospodarstwo musiało wykarmić kilku żołnierzy, których rzecz jasna zachowywali się nie jak we własnym, a jak w podbitym kraju. W styczniu 1875 r. do stacjonujących w Mszannie żołnierzy dołączyło jeszcze 200 kozaków...".

Заглянуў я на мшанскія могілкі, якія прылягаюць да згаданай краёвай дарогі. У межах агароджы з боку шашы кампактна размешчаны магілы парафіяльных пакойнікаў; яны займаюць крыху за палову могілак. У канцы могілак вялікая магіла-помнік тамашнім змагарам Студзеньскага паўстання. Але там ёсць таксама некалькі раскіданых старых магілак, у якіх, як мне паказалася, спачылі апошнія мшанскія вернікі, якія асталіся пры праваслаўным абрадзе...

Гэта яшчэ „па-божаму". Інакш складзіся могілкавыя справы ў недалёкіх Хотычах. У вобрубе гэтай мясцовасці зараз стаіць мачта публічнага радыё- і тэлевяшчання, падобная як у падбеластоцкіх Крыніцах. Раней у Хотычах існаваў праваслаўны, а пазней уніяцкі прыход. Тамаш Дабравольскі: „Po I wojnie światowej na terenie byłej parafii w Chotyczach pozostało na miejscu zaledwie kilkanaście rodzin prawosławnych. W związku z powyższym nastąpiła likwidacja parafii cerkiewnej, a należące do niej miejsca kultu przejął Kościół katolicki. Od tego momentu zaistniały trudności w korzystaniu przez prawosławnych z cmentarza grzebalnego. W 1924 roku proboszcz łosicki, ks. Wacław Gąska, odpowiadając na zapytanie kurii diecezjalnej, stwierdzał, że na skutek oporu wiernych oraz przez wzgląd na „czysto katolicki charakter tych stron i pamięć krzywd doznanych od prawosławnych", grzebanie zmarłych prawosławnych na cmentarzu chotyckim jest chwilowo niemożliwe". Тамашнім праваслаўным давялося вазіць сваіх пакойнікаў у адлеглае каля дваццаці кіламетраў Носава...

Чалавек, вучоны ён больш ці менш, бачыць свет са свайго пункту гледжання. Адны выгадна могуць бачыць свет з вышыні *торжества воссоединения*, іншыя — адно *czysto katolicki charakter tych stron*. Чалавеку ж „невучонаму" затое — плач і скрыгат зубоў...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

(з гісторыі паўстання 1863-1864 гг. на Беласточчыне)

# Бітва пад Сямятычамі (6-7 лютага 1863 года)

У ноч на 23 студзеня 1863 года атакамі на расейскія гарнізоны пачалося Студзеньскае паўстанне. З 24 атак паспяховымі былі толькі 6, прычым шэраг з іх на Падляшшы.

Першапачаткова паўстанне планавалася пачаць вясной 1863 года, прычым не толькі на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, але і цэнтральнай Расіі, дзе яго рыхтавала арганізацыя „Зямля і воля”. Але на тэрыторыі Польшчы і заходніх паветаў Гродзенскай губерні яно разгарнулася раней, выкліканае планаваным рэкруцкім наборам. Царскія ўлады такім чынам меркавалі забраць у расійскае войска 12 тысяч патэнцыяльных паўстанцаў, актыўных удзельнікаў так званага „маніфестацыйнага руху”.

Паколькі паўстанцкі ўрад у Варшаве прыняў рашэнне пачаць паўстанне, не ўзгадніўшы гэтага пытання з рэгіянальнымі канспіратыўнымі арганізацыямі, у Гродзенскую губерню з Польшчы накіроўваюцца атрады з Каралеўства Польскага. Адзін з іх узначальваў Уладзіслаў Ціхорскі (1822-1876), мянушка „Замэчэк”, да якога актыўна далучаліся мясцовыя жыхары.

Ва ўсім краі існавала складанае становішча, насельніцтва гатовае было ўзняцца супраць прадстаўнікоў царскай адміністрацыі, войска, нават заможных абшарнікаў. І рэлігійнае веравызнанне не гуляла тут вырашальнай ролі. Таму пры пераважнай колькасці каталікоў, сярод паўстанцаў хапала і праваслаўных. Напрыклад, 18-гадовы Казлоўскі Шымон Якубаў з вёскі Жаўткі (Беластоцкі ўезд) з атрада Старжынскага. Касінерам у атрадзе Святлінскага (мянушка „Пярун”) быў 25-гадовы Талочка Саварыл Аўгусціна з вёскі Чэхі, у атрадзе Дзікоўскага два месяцы правёў 17-гадовы Дземянчык Маркель Ілыч з в. Лысае (абодва — Бельскі ўезд). З в. Студзянка Сакольскага ўезда адразу некалькі сялян пайшлі ў атрад Духінскага, у тым ліку 18-гадовы Сінкевіч Васіль Матвееў, які таксама змагаўся пад кіраўніцтвам Фелікса Улодака і Валерыя Урублеўскага.

Калі прадстаўнікі шляхты ў большасці выпадкаў ведалі пра паўстанне і актыўна збіраліся па лясах, то сяляне і мяшчане далучаліся да іх хаатычна, пры чым не толькі за кошт прапаганды каталіцкіх святароў, не толькі ў выніку прымусу, але і пад уздзеяннем пракламацыі паўстанцкага ўрада ад 22 студзеня. Згодна гэтаму дакументу, „аднадворцы, батракі і іншыя і ўвогуле ўсе памешчыкі, якія ўтрымліваюць сябе толькі з заробкаў, закліканыя да зброі ў шэрагі народнага войска Айчыны, будуць змагацца, атрымоўваюць яны, а ў выпадку іх смерці — жонкі і дзеці, ва ўласнасць па заканчэнні вайны ад народных маёнткаў надзел зямлі не менш, чым у 3 моргі”.

Адной з галоўных праблем для паўстанцаў з'яўляся недахоп зброі. Так, у першыя дні атрад „Замэчка” пры колькасці ў амаль дзве тысячы чалавек меў усяго 60 адзінак узбраення. Яе закупка і перапраўка ішлі вельмі марудна, у большасці выпадкаў кантрабанда трапляла ў рукі расейскіх і прускіх улад. Таму паўстанцы інтэнсіўна выкарыстоўвалі косы, перавернутыя лязом уверх і замацаваныя на дрэўках дротам са зрэзаных тэлеграфных ліній. Таксама не хапала адукаваных вайсковых кадраў і ўзгодненай стратэгіі барацьбы не толькі на тэрыторыі ўсёй былой Рэчы Паспалітай, але і ў асобна ўзятых уездах.

Пад уздзеяннем шырокага ўздыму насельніцтва, 26 студзеня віленскі генерал-губернатар Уладзімір Назімаў выдае загад аб увядзенні ваеннага становішча ў Гродзенскім, Сакольскім, Бельскім і Брэсцкім уездах Гродзенскай губерні, куды перакідаюцца дадатковыя войскі.

У ноч з 29 на 30 студзеня ў маёнтку Рудка Бельскага павета паўстанцы, пераважна з ліку сялян, атакавалі атрад казакаў пад кіраўніцтвам харужага Каласкова. З 40 казакаў забітыя чатыры, столькі ж паранена, яшчэ шэсць трапілі ў палон. Астатнія адступілі ў горад Бельск.




Тэрмінова ў Бельск прыбывае атрад генерал-маёра Захара Манюкіна (1799-1882) з сямю ротамі Лібаўскага палка пяхоты, плюс артылерыйскі батальён з чатырма гарматамі і казакі. Манюкін займае маёнтак Рудка і сутыкаецца з непрыхаванай антыпатыяй сялян. У такіх умовах ён ідзе на беспрэцэдэнтны ўчынак — абвяшчае аб перадачы ўсёй ваколічнай зямлі сялянам без абавязкаў адпрацоўкі на карысць паноў, тым самым адмяняе для іх „часоваабавязанае” становішча. Тое, што пад ціскам паўстання пазней зробіць Міхаіл Мураўёў для сялян Беларусі і Літвы. Аднак Манюкін дзейнічаў без афіцыйнага дазволу. У той жа час гэты радыкальны крок меў свае пазітыўныя наступствы для ўлад, паколькі ствараў прэцэдэнт і з'яўляўся надзеяй для мясцовых сялян атрымаць, у іх разуменні, сапраўдную волю, нават ад расейскіх улад. Але сяляне не ўсведамлялі, што такі крок улады зрабілі толькі пад націскам іх барацьбы, іх змагання, іх актыўных дзеянняў.

У той жа час атрад Манюкіна накіраваўся пад Сямятычы, дзе сабралася каля 5 тысяч паўстанцаў і дзе 6-7 лютага адбылася бітва.

Пад Сямятычамі 6-7 лютага 1863 г. адбылася самая вялікая бітва Студзеньскага паўстання на тэрыторыі г.зв. Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі. Значную колькасць паўстанцаў у гэтай бітве склалі беларускія сяляне.

У канцы студзеня 1863 г. у ваколіцы мястэчка Сямятычы, абраныя месцам збору для каардынацыі сумесных дзеянняў, сталі прыбываць паўстанцкія атрады. Першым сюды прыбыў атрад Уладыслава Ціхорскага, які ў гэты час налічваў каля дзвюх тысяч чалавек, у тым ліку 600 стральцоў і столькі ж конніцы. Ён размясціўся ў палацы графа Феншаў і ў далейшым планаваў рушыць у накірунку Бельска-Падляшскага. Да Сямятыч падыходзілі атрады Яна Матлінскага (мянушка „Сокал”), пасля бітвы каля Венграва, і Рамана Рагінскага (1840-1914), пасля яго спробы авалодаць Бялай-Падляшскай. Да іх далучыўся таксама атрад Станіслава Сангіна, паплечніка Каліноўскага. Агулам ад чатырох да пяці тысяч чалавек. Кіраўніцтва над аб'яднанымі атрадамі прыняў Валенты Левандоўскі (1823-1907) — падляшскі вайсковы кіраўнік.

Яны былі арганізаваныя наступным чынам: на кожную тысячу чалавек было 208 стралкоў, падзеленых на 4 узводы, па 52 чалавекі ў кожным, на чале з афіцэрамі. Чатыры ўзводы складалі адну роту пад кіраўніцтвам ротнага камандзіра. Стралкі былі ўзброены аднаствольнымі і двухствольнымі ружжамі, некаторыя мелі штуцары. Астатнія 800 чалавек з тысячы — гэта касінеры, узброеныя косамі і дзідамі, таксама дзяліліся на ўзводы. Пад Сямятычамі сабралася і некалькі соцень кавалерыі, а адзін з кавалерыйскіх узводаў з 32 чалавек быў арганізаваны з ліку жыхароў мястэчка.

Сярод пяхоты мелася шмат паўстанцаў з чамаркамі на галаве, а сярод стралкоў пераважалі апранутыя ў адзенне чорнага колеру.

На Сямятычы расейцы выслалі некалькі атрадаў: ад Цеханоўца ішоў генерал Манюкін з сямю ротамі і чатырма гарматамі, ад Венграва рухаўся Крываносаў.

6 лютага на дворы было пацяпленне. Ішоў дробны дожджык. Дарогі зусім размякчэлі і ператварыліся ў коўзкі бруд. Нягледзячы на гэта, расейскія войскі на чале з Манюкіным (каля 2,5 тыс. чалавек) пераадолелі за дзень 40 вёрст і пад 5 гадзін вечара падышлі да Сямятыч, дзе заселі паўстанцы.

Манюкін атрымаў інфармацыю пра хуткі падыход сюды яшчэ адной паўстанцкай калоны з боку Венграва. Таму ён вырашыў тэрмінова атакаваць.

Манюкін размясціў свае войскі побач з могілкамі, да якіх моцнай цаглянай сцяной з невялічкай брамаю на тых прытулілася само мястэчка. Як толькі расейцы занялі пазіцыі, па іх адкрылі страляніну. Паўстанцы выкарыстоўвалі выступаючыя ў бок могілак хаты: частка баявога парадку праціўніка апынулася пад агнём. У адказ расейцы падцягнулі гарматы і пасля двух стрэлаў на штурм могілак накіраваўся Лібаўскі пяхотны прынца Карла Прускага полк на чале з падпалкоўнікам Філімонавым. У гэты ж час 2-я стралковая рота Калужскага палка без супраціву падышла да цаглянай сцяны.

Лібаўскі полк апынуўся пад прыцэльным агнём. Філімонаў вярхом на кані намагаўся падняць расейскія войскі ў атаку, але, сам паранены ў жывот, паваліўся на зямлю. Пасля такога відовішча чакаць наступлення ад дэмаралізаваных салдат было немагчыма.

Манюкін вымушаны быў накіраваць начальніка свайго штаба капітана Гейнса да роты Калужскага палка, якая ўжо падышла да брамы Сямятыч і спрабавала яе ўзламаць, каб уступіць у абароненае сцяною мястэчка ды зайсці ў тыл паўстанцам. Але амаль сцямнела, надвор'е ж канчаткова сапсавалася — падняўся моцны вецер з дажджом. Акрамя таго паўстанцы, выкарыстоўваючы для абароны будынкі, адстрэльвалі салдат. Тыя спрабавалі схавацца за надмагіллямі і заставаліся тут жа, ляжаць мёртвымі або цяжка параненымі. Манюкін аддаў загад аб адступленні.

У гэты час з мястэчка пад песню „Boże coś Polskę” у атаку кінуліся паўстанцы. Манюкін у сваім рапарце запісаў: „Это, впрочем, можно было слышать по их пению и крикам, потому что темнота, упавшая вдруг, стала совершенно непроницаема”. Расейцы, не здолеўшы стрымаць моц атакі, адступілі ў вёску Чартаева, пакінуўшы на полі дзясяткі забітых і параненых, а таксама дзве гарматы. Паўстанцы страцілі 14 забітымі, сярод якіх Мікалай Сняжынскі і Адам Вольман, ды 13 параненых.

7 лютага ў 12 гадзін Манюкін, атрымаўшы падмацаванне, зноў падышоў пад Сямятычы. На гэты раз расейцы выкарысталі рэльеф мясцовасці і атакавалі з боку дарогі на Драгічын, слаба ўмацаванай паўстанцамі. Мястэчка ўвесь час абстрэльвалася гарматамі і маленькія драўляныя хаткі пачалі гарэць. Паступова расейцы займалі навакольныя ўмацаваныя паўстанцамі пункты, папярэдне накрываючы іх 6-фунтовымі ядрамі.

Побач з Сямятычамі размяшчалася сядзіба памешчыка графа Феншаў, з якой паўстанцы зрабілі моцны абарончы вузел. Расейцы падышлі да дома з боку парка, але не здолелі захапіць яго з ходу: „Чтобы не штурмовать комнату за комнатой, солдаты подожгли дом”. Паўстанцы выскаквалі з вокнаў і тут жа іх расстрэльвалі. Толькі адзінкам удалося, дзякуючы хуткім нагам, дабрацца да мястэчка.

Паўстанцы намагаліся зноў авалодаць сядзібаю графа Феншаў, накіраваўшыся з мястэчка ў наступленне. Але, сустрэтыя агнём падцягнутых сюды дзвюх рот праціўніка і агнём артылерыі, адступалі ў паніцы. Сюды ж Манюкін накіраваў дадаткова дзве роты, а сам узначаліў атаку мястэчка з фронту.

Паўстанцы ў хаосе бою пачалі адступаць да лесу, праз мост, у хуткім часе захоплены салдатамі. У выніку дзясяткі абаронцаў засталіся ляжаць на полі, параненыя ў спіну. Казакі кінуліся закалваць дзідамі параненых. Убачыўшы гэта, ужо амаль дасягнуўшая лесу паўстанцкая кавалерыя развярнулася і накіравалася ў бой, вымушаючы казакаў шукаць паратунку ў захопленым расейцамі мястэчку.

У Сямятычах пачалася сапраўдная разня, якая адбывалася на фоне пажару ад гарматных стрэлаў, у выніку якога мястэчка амаль цалкам згарэла. Параненыя і акружаныя паўстанцы змагаліся да апошняга. Манюкін пісаў: „Стрелки, рассевшиеся по домам, открыли в войска частую пальбу, но потеря наша была незначительна, в особенности от того, что солдаты поджигали соломенные крыши каждого дома, из которого раздавался выстрел, и, обегая по задворкам и переулкам, продолжали двигаться далее”.

Страты паўстанцаў забітымі склалі каля ста чалавек. Вялізная колькасць, пераважна мясцовых сялян, патрапіла ў палон. Параненых жа паўстанцаў расейскія салдаты проста дабівалі. Манюкін у рапарце пазначыў: „Как я уже сказал, ожесточение было велико. Наши солдаты кричали, что они теперь мстят за варшавские оскорбления, понесенные два года безнаказанно”.

Прайграная бітва перакрэсліла планы паўстанцаў на шырокі ўздым Беласточчыны. У той жа час атрад Рамана Рагінскага накіраваўся ў 750-кіламетровы марш на поўдзень Беларусі, а Уладыслаў Ціхорскі, пад якім пад час бою быў забіты конь, з рэшткамі свайго атрада адступіў на тэрыторыю Каралеўства Польскага.

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Ласінянскі мясаед

**Лідзія Дарошка з дому Цімашэвіч нарадзілася ў падкрынскіх Ласінянах у 1932 годзе. Ахрысцілі яе ў царкве ў Гальнцы, якая цяпер знаходзіцца на беларускім баку мяжы. У час Другой сусветнай вайны царкву гэтую разбілі, успамінае жанчына. На малітву народ пачаў збірацца ў звычайнай хаце, якая стаяла насупраць нямецкай камендатуры. Спадарыня Лідзія не ведае скуль паходзіў гальнскі бацюшка, але помніць, што прапаведзі гаварыў ён як „палагаецца", значыць, „на царкоўнаславянскам языке".**


Лідзія Дарошка з мужам Анатолем і дачкой Галінай на ласінянскім панадворку

— Пры санацыі, — тлумачыць яна, — бацюшку застаўлялі гаварыць „па-каталіцку", але цяпер таксама па-польску ў царкве гавораць. Тады гэта ж надта было дзіўна.

Ласіняны ўжо прыпісаны да царквы ў Крушынянах. Спадарыня Лідзія разам са сваім мужам Анатолем з'яўляюцца аднымі з апошніх, да канца верных жыхароў сваёй роднай вёскі. Справа ў тым, што гэтае месца больш чым населены пункт напамінае пустэльню, а пра мясцовыя традыцыі і звычаі ўжо і расказаць тут няма каму. Наш тыднёвік звярнуўся да Лідзіі Дарошка з просьбай успомніць „мясаед". Памяць пра гэты характэрны падкрынскім вёскам звычай можна зберагчы толькі ў форме запісаў. Спробы яго адраджэння як грамадска-культурнага ці проста забаўляльнага мерапрыемства ў мястэчку Крынкі не атрымалі поспеху. Аказалася, што мясцовых дражніць ужо самае, надта няпольскае слова. Таму нават няхай на забаве зайграюць найлепшыя музыканты, калі яе назваць „мясаедам", ніхто туды не пойдзе, а калектыў застанецца з пустымі кішэнямі.

— Па-польску карнавал, па-нашаму мясаед, — павучае, седзячы на ўслончыку пад кухоннай плітой, спадарыня Лідзія. — Ён пільнаваўся Вялікадня, а пачынаўся зразу па свяце Каляд. Калі Вялікдзень ранні, тады мясаед карацейшы, а калі пазнейшы — тады мясаед даўжэйшы, — аб'ясняе жанчына. — Ніхто нічога спецыяльнага, прынамсі ў нашай вёсцы, у той час не рабіў. От, мясаед ёсць мясаед. Малады гады праходзілі нам у горы і бядзе. Ведаю, што пад канец мясаеда, не помню ў які канкрэтна дзень, дзецям спраўлялі „валосся". Як былі малыя, у хаце альбо стадоле бацькі да бэлек чаплялі ланцугі і мы на іх гойдаліся. Вось такое „валосся". Цэлы мясаед моладзь збіралася на забавах. Танцавалі па хатах, у вялікім пакоі. Бывала, хлопцы дадуць гарэлкі гаспадару і ён прымаў. У школе рэдка танцавалі, бо туды не ўпускалі. У час мясаеда не варажылі, гэтым займаліся выключна на сярэднюю Каляду значыць на Новы год. А елі ўсё, што было ў хаце. Не тое, што сёння мясаед, то будзем лепш есці. Найчасцей варылі пачышчаную бульбу, якую таўклі са скваркамі на кашу. Запівалі кіслым малаком альбо шчолакам, значыць, расолам — у тым выпадку зварaным з квашанай капусты. Вось такой, — падымае з пліты гаршчок са стравай. — Былі аладкі з бульбы і аладкі з мукі. Гэтыя апошнія нават у мясаедзе рабілі толькі на вадзе, без малака ці яек. Мяса падавалі найчасцей варанае. От, зварацьь, кінуць у міску і ўсё.

Маці Лідзіі Дарошка рабіла таксама вялікія і малыя галушкі, такія як у недалёкай Вялікай і Малой Бераставіцы, куды ласіняне падаваліся на штотыднёвы торг. Спадарыня Лідзія добра помніць спосаб іх выканання.

— Абабраную бульбу спярша церлі, потым выціскалі праз палатно і мяшалі. Нічога тады не дабаўлялі, ні солі, ні мукі. З гэтага качалі невялікія шарыкі — малыя галушкі, якія варылі ў соленай вадзе. Вялікія галушкі рабілі з мясам, найчасцей свіным. Мяса малолі ў мясарубцы, прыпраўлялі соллю, перцам і часнаком і невялікія порцыі клалі ў бульбяную масу. Круглыя галушкі кідалі ў пасолены кіпень.

Малыя галушкі падавалі ў расоле-шчолаку, значыць, у вадзе, у якой яны варыліся, альбо ў місцы з сырым малаком. Вялікія галушкі бяднейшыя елі без нічога, а багатыя палівалі скваркамі.

Спадарыні Лідзіі здавалася, што нічога асаблівага нам не расказала:

— От, звычайнае жыццё звычайных людзей, — падсумавала.

Яна нават і прыемна здзівілася, што нехта сапраўды гэтым цікавіцца.

**Іаанна ЧАБАН**

---




## http://be.wikipedia.org і http://be-x-old.wikipedia.org

Адным з найбольш папулярных інтэрнэтдаведнікаў ужо многія гады з'яўляецца добра вядомая ў свеце Вікіпедыя. Напаўняная інфармацыяй ад звычайных людзей, яна стала свайго роду энцыклапедыяй пра ўсё і ўсіх на большасці моваx свету. Але адной з цікавых асаблівасцей Вікіпедыі, незаўважных, магчыма, для пераважнай большасці карыстальнікаў, з'яўляецца яе „беларускае двухмоўе". Справа не ў афіцыйным двухмоўі, якое існуе ў Беларусі, дзе насамрэч руская мова падаўляе беларускую, але пра мовы карыстання Вікіпедыяй — беларуская і беларуская (тарашкевіца), якія месцяцца па розных адрасах у інтэрнэце http://be.wikipedia.org і http://be-x-old.wikipedia.org. Зразумела, такія дзве „беларускія мовы" ўсяго толькі два гатункі беларускага правапісу, але ў артыкулах Вікіпедыі яны ўжо адрозніваюцца і па змесце. І гэта пры тым, што адным з прынцыпаў інтэрнэт-энцыклапедыі з'яўляецца нейтральны пункт гледжання.

Летась беларускай Вікіпедыі споўнілася роўна 10 гадоў. 12 жніўня 2004 года, як сведчыць газета Таварыства беларускай мовы „Наша слова", вэб-дызайнер Уладзімір Катркоўскі надрукаваў там першыя артыкулы. Спачатку існаваў, зразумела, адзін беларускі раздзел Вікіпедыі, але з цягам часу яго пачалі трэсці „войны правапісаў", бо выпраўляць арфаграфічныя памылкі, якія бачылі прыхільнікі ці то „наркамаўкі", ці то „тарашкевіцы", стала для некаторых напросту самамэтай.

Такім чынам амаль праз тры гады існавання беларускай Вікіпедыі — у сакавіку 2007 года адбылося раздзяленне беларускамоўных артыкулаў. На новы, адпавядаючы афіцыйнаму беларускаму правапісу раздзел, былі перанесены больш за 3,5 тысячы артыкулаў. Тое, што пісалася класічным правапісам „пераехала" на іншы дамэн. Такім чынам, цяпер існуюць два самастойныя праекты на беларускай мове, у адным з якіх выкарыстоўваецца афіцыйная арфаграфія, у другім — класічная, заснаваная на варыянце арфаграфіі, вядомым як „тарашкевіца" ў нармалізацыі 2005 года. На сённяшні дзень „наркамаўкай" напісана больш за 71,5 тысячы артыкулаў, а „тарашкевіцай" — больш за 52,9 тысячы, пра што сведчаць матэрыялы моўных курсаў „Мова нанова", якія апошнім часам сталі аднасна папулярнымі ў Беларусі.

Нягледзячы на існаванне дзвюх асобных „моў" беларускай Вікіпедыі, па колькасці артыкулаў, нават агулам, ёй далёка да англійскай, дзе лічба артыкулаў перавышае 4,5 мільёна. У прыбатнасці, артыкулаў, створаных па-руску, налічваецца больш за 1,1 мільёна, а па-польску — звыш мільёна. Таму не дзіўна, што агулам дзве беларускія Вікіпедыі маюць толькі 1,7% ад усіх праглядаў Вікіпедыі ў Беларусі.

Маладзёжнае грамадскае аб'яднанне „Фаланстэр" у Беларусі на працягу лістапада і снежня 2014 года праводзіла інтэрнэтапытанне „Як зрабіць беларускую Вікіпедыю больш цікавай і ўжывальнай?", у якім прынялі ўдзел каля 200 чалавек. Так, на пытанне „Ці часта карыстаецеся беларускай Вікіпедыяй?" больш за палову апытаных (52%) адказалі, што карыстаюцца не радзей за месяц: з іх штодзень — 6% ад агульнай колькасці, кожны тыдзень — 20%, раз на месяц — 26%. 14% — не карыстаюцца наогул. А ў адказах на пытанне „Чаго не хапае беларускім Вікіпедыям?" высветлілася, што перш за ўсё не хапае ўжывальнасці беларускай мовы ў штодзённым жыцці (56%).

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Беларус, які вынайшаў радыё

## 110 гадоў з дня смерці Якуба Наркевіча-Ёдкі

Выдатны беларускі навуковец Якуб Сармат Жыгімонт Наркевіч-Ёдка нарадзіўся 27 снежня 1847 года ў шляхецкай сям'і ў маёнтку маці Над-Нёман мясцовасці Турын (цяпер вёска ў Пухавіцкім раёне). Паходзіў з роду Касцюшкаў. Пачатковую адукацыю атрымаў у Мінскай гімназіі (вучыўся там у 1861-1865 гг.). Ён рана засвоіў французскую мову і навыкі ігры на фартэпіяна. Верагодна, што вучыўся таксама ў Парыжы і Маскве. Вядома, што працягваў навучанне ў медычным інстытуце ў Фларэнцыі і Сарбоне. Адначасна зарэкамендаваў сябе вельмі здольным піяністам, выступаў з канцэртамі ў розных краінах Еўропы і Азіі. Аднак пакінуў заняткі музыкай, вярнуўся ў родавы маёнтак і заняўся навуковымі доследамі. У 1872 г. у маёнтку Антонава (сёння вёска Сінячова на Капыльшчыне) збудаваў метэаралагічную станцыю, у 1888 г. перанёс яе ў свой маёнтак Над-Нёман. З 1890 г. Наркевіч стаў супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу.

Свае даследаванні Наркевіч-Ёдка прысвяціў вырашэнню наспелых прыкладных заданняў. Пачынаў ён з таго, што аваладаў прыёмамі лячэння людзей, а таксама жывёл. Да медыцыны падштурхнула і ранняя смерць роднай сястры Анелі ад невылечных тады сухотаў. Ужываў перадавыя для свайго часу прыёмы, выкарыстоўваў вакцыны і сыараткі. У сваім маёнтку стварыў своеасаблівы санаторый, распрацаваў методыку лячэння нервова хворых электрычным токам. Выкарыстоўваў кумысалячэнне, святлолячэнне, гімнастыку, мясцовыя мінеральныя воды. Метэаралагічная станцыя Наркевіча, адзіная ў той час на поўначы Міншчыны, была абсталявана найноўшай апаратурай, у тым ліку і прыладамі, якія вынайшаў як стваральнік. Атрыманыя звесткі перадаваліся ў розныя метэаралагічныя цэнтры. Праз сістэму маланкаадводаў Наркевіч-Ёдка змагаўся з градам, чым спрыяў ураджайнасці на палях. За заслугі ў галіне метэаралогіі ў 1890 г. быў узнагароджаны сярэбраным медалём Рускага геаграфічнага таварыства. За навуковыя працы быў зацверджаны сябрам-супрацоўнікам Інстытута эксперыментальнай медыцыны ў Пецярбургу. Неаднаразова выязджаў у еўрапейскія краіны з навуковымі дакладамі. Быў ганаровым доктарам Віленскага медыцынскага таварыства, сябрам многіх іншых еўрапейскіх і расейскіх таварыстваў, меў дыплом прафесара электраграфіі і магнетызму.

Якуб Наркевіч-Ёдка вынайшаў спосаб бяздротавай перадачы і прыёму электрамагнітных хваляў на адлегласці. Па-сутнасці ён у 1891 г. стварыў першы ў свеце, раней за Папова і Марконі, правобраз радыёпрыёмніка, але не запатэнтаваў вынаходніцтва. Аднак існуе дакумент які пацвярджае прыярытэт Наркевіча — пратакол пасяджэння французскага фізічнага таварыства ў Парыжы за снежань 1898 г. Наркевіч таксама зрабіў значныя адкрыцці ў метэаралогіі — вымярэнне хуткасці руху аблокаў, вільготнасці глебы і іншыя.

Памёр Якуб Наркевіч-Ёдка 19 лютага 1905 г. у сталіцы Аўстрыі Вене ў час чарговай паездкі на навуковую канферэнцыю. Пахаваны ў сваім маёнтку Над-Нёман. На магіле памятны камень з надпісам па-беларуску. У 1988 г. у серыі „Нашы славутыя" выйшла кніжка Віктара Грыбкоўскага і Вольгі Гапоненкі „Прафесар электраграфіі і магнетызму", прысвечаная жыццю і дзейнасці славутага навукоўца.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# ШАНЦ НА ПАЎТОРНАЕ АДКРЫЦЦЁ
## пешаходнага пункта пропуску ў Кузніцы

Kontrola graniczna ruchu pieszego

KONTROLA CELNA

фота Izba Celna

Год таму, 1 студзеня 2014 года, пачаў працаваць пешаходны пункт пропуску ў Кузніцы-Беластоцкай. Ён адразу стаў папулярным — на працягу дзевяці месяцаў свайго існавання, пакуль яго не зачынілі на рэканструкцыю, ім скарысталася 200 тысяч чалавек. «Эльдарада» скончылася 1 кастрычніка 2014 года. Тады ўлада Рэспублікі Беларусь вырашыла закрыць для пешаходнага руху ўсе дарожныя пункты пропуску на мяжы з Еўрасаюзам, у якіх няма асобнага пешаходнага калідора.

Афіцыйная прычына — клопат пра бяспеку: Беларусь заяўляе, што пешаходны рух будзе функцыянаваць, але для таго трэба стварыць адпаведную інфраструктуру, такую, якая была створана ў польскай частцы перахода ў Кузніцы. У беларускай частцы такога калідора не было, пешаходы ішлі ўскраямі дарогі паміж машынамі і аслугоўваліся ў тых самых будках, што і кіроўцы. Аднак каментатары лічаць, што сапраўдная прычына рашэння іншая: Беларусь такім чынам хоча абмежаваць беларускім грамадзянам аб'ём закупаў за мяжой, каб паменшыць дэфіцыт бюджэту. Такім чынам, стварэння беларускім бокам патрэбнай інфраструктуры пешаходнага руху можна чакаць шмат гадоў і ніколі не дачакацца.

Аднак нядаўна з'явіўся шанц вырашыць гэтую праблему іначай. Неабходную інфраструктуру для пешаходаў у беларускай частцы пунктаў пропуску (у Кузніцы і Баброўніках) можа стварыць Польшча — зразумела, у пагадненні з беларускай уладай. Як неафіцыйна кажуць беларускія чыноўнікі, калі польскі бок захоча ўзяць на сябе фінансаванне гэтых інвестыцый, Беларусь не будзе рабіць перашкод і пагодзіцца на адкрыццё пешаходнага руху. Тым больш, што рашэннем беларускага боку зачынілі пешаходны рух толькі там, дзе не было інфраструктуры. Зараз існуе пешаходны пераход у Белавежы і байдарачны на Аўгустоўскім канале. Пешшу можна будзе таксама перасякаць мяжу ў Полаўцах, дзе інфраструктуру для пешаходнага руху прадугледзелі ўжо на этапе праектавання новага аб'екта.

Пакуль што на фінансаванне гэтых інвестыцый з цэнтральнага бюджэту Польшчы няма шанцаў і ў хуткім часе не прадбачыцца. Аднак пастанова Камітэта па пытаннях уладкавання дзяржаўнай мяжы (Zespół ds. zagospodarowania granicy państwowej) пры прэм'ер-міністр Еве Копач ад 29 лістапада 2013 года паказвае, што такія інвестыцыі могуць паступаць з бюджэтаў мясцовага самакіравання — гмін, паветаў і ваяводства (Падляшскае, Люблінскае). Камітэт паказаў таксама на тое, што з пункту гледжання Польшчы адкрыццё пешаходнага руху на мяжы з Беларуссю і Украінай карыснае, таму польскі ўрад гэта падтрымлівае. Самую ж магчымасць фінансавага ўдзелу самакіравання ў інвестыцыях у пунктах пропуску дапускае распараджэнне Савета Міністраў ад 2005 года да Закону аб ахове дзяржаўнай мяжы. Гэты прававы акт паказвае таксама на тое, што інвеставаць можна не толькі на польскай тэрыторыі, але таксама на тэрыторыі суседняй дзяржавы. Зацікаўлены ў гэтым орган самакіравання (напрыклад, павет або ваяводства) павінен праканультавацца па гэтых пытаннях з ваяводам, а той — з суседняй дзяржавай.

Прыкладны кошт стварэння інфраструктуры пешаходнага руху ў беларускай частцы перахода ў Кузніцы складзе 10-15 мільёнаў злотых. У Баброўніках гэтая сума яшчэ большая — звыш за 30 мільёнаў, бо там яшчэ трэба пабудаваць новы мост для пешаходаў на памежнай рэчцы Свіслачы. Гміны Кузніца і Гарадок такіх грошай не маюць, паветам (Сакольскаму і Беластоцкаму) таксама цяжка было б знайсці іх — хіба што з дапамогай еўрафондаў. Застаецца трэцяя магчымасць — пабудова іх за кошт Падляшскага ваяводства.

Ці рэальна гэта? Віцэ-маршалак Мацей Жыўна ў каментары для «Газеты выбарчай» адзначае, што лёгка не будзе, але калі ваяводскае самакіраванне мае магчымасць стварыць за свой кошт пешаходныя пункты пропуску, трэба паспрабаваць. Віцэ-маршалак Жыўна абяцаў зацікавіцца тэмай і разгледзець магчымасць ажыццявіць гэтыя інвестыцыі з дапамогай еўрафондаў. Ён абяцаў таксама паразмаўляць пра гэта з ваяводам. Чым гэтыя перамовы скончацца, будзе бачна вясной 2015 года.

**Якуб ЛОГІНАЎ**

## ЗАПРАШЭННЕ

**З цыкла размовы аб: ....**

**„Культура і мастацтва”**

**сустрэча з праф. ЛЯВОНАМ ТАРАСЭВІЧАМ**

**Сардэчна запрашаем!**
**Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка”, Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2**
**19.02.2015 г. гадз. 18:30**

## Адгаданка

1. фантастычнае апавяданне, 2. горад на Дняпры між Бабруйскам і Гомелем, 3. кінематаграфія, 4. прозвішча аўтара „Гамлета”, 5. спецыяліст па вывучэнні смалы, 6. круты роў, лагчына, 7. няўпэўненасць, 8. мяккая частка печанага хлеба.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | 2 | | |
| | | 3 | 4 | | | | | |
| 5 | | | 6 | | | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | | 7 | | | | 8 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 5 нумара

Атоса, бісер, ежа, зен, зона, лоб, чыж, шум.

Рашэнне: **Жанчына без сораму — што ежа без солі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# 22.02 — 28.02

**(22.03. — 20.04.)** 24-28.02. будзеш сарганізаваны, сумленны і дакладны. Добры час на доўгатэрміновыя мерапрыемствы. Ты цяпер вельмі прылюдны і ўмела наладжваеш знаёмствы. Бараны з 1-7.04. могуць мець праблемы з грашыма, не таму, што іх можа ім не хапіць, але без кантролю будуць выпускаць іх з хатняга бюджэту; плануйце выдаткі. Гімнастыкуйся і рэабілітуйся.

**(21.04. — 21.05.)** 22-24.02. будуць табою ўсе захапляцца, добры час і на фінансавыя прыёмы. Будзеш вельмі добра адчуваць сябе ў месцы, дзе жывеш. Толькі дзеці, можа, будуць непаслухмяныя і марудныя; хаця будуць бунтавацца, не спускай іх з вока. Не шкадуй часу на адпачынак. Выберыся ў нейкае ціхае і маладюднае месца.

**(22.05. — 22.06.)** Знакаміты час на сяброўскія кантакты. Удадуцца сустрэчы як са старымі, так і з новапазнанымі людзьмі. Сярод апошніх знойдзецца хтосьці, з кім спалучаць цябе нейкія асаблівыя адносіны. Парабі ўсе магчымыя медычныя абследаванні. Дзякуючы гэтаму можаш пазбегнуць нейкіх сур'ёзных праблем са здароўем. Запішыся на курсы і абучэнні, што паможа выйсці табе з новымі праектамі. 21-25.02. пакінь „адкрытую брамку” на выпадак, калі б штосьці не ўдалося.

**(23.06. — 23.07.)** Старайся ашчаджаць, таму што шыкуюцца непрадбачаныя большыя выдаткі. Цяпер ты ў пэўным сэнсе балансуеш над безданню і, страціўшы асцярожнасць, можаш лёгка ўваліцца ў прорву. У любым выпадку не паддавайся паніцы: не разаб'ешся. Старанна сплануй свае дзеянні на наступны тыдзень, паспрабуй нічога не прапусціць, тады будзеш мець забяспечаны поспех. Панядзелак: перад тым як сесці на крэсла або зэдлік, правер іх трываласць.

**(24.07. — 23.08.)** Хтосьці, у кім ты не раз сумняваўся, пакажа сваю шчырую лаяльнасць. Але будзе хтосьці, хто схоча папсаваць твой імідж або планы; не скандаль, бо яшчэ пагоршыш сітуацыю. Засяродзься на тым, што табе найлепш атрымліваецца, і пачакай лепшага моманту. 21-25.02. не афармляй ключавых спраў, бо не ўсе будуць табе прыхільнымі. А 24-28.02. пагражаюць табе праблемы.

**(24.08. — 23.09.)** 24-28.02. усё будзе кайціцца як найлепш. Будзеш уважлівы і дакладны. З 25.02. пачынай лячэнне і розныя тэрапіі, будуць яны вельмі паспяховыя і трапныя. Але не рызыкуй, будзь вельмі асцярожны.

**(24.09. — 23.10**.) 22-26.02. будуць табе спадарожнічаць рашучасць і цярплівасць; добры момант пачынаць доўгатэрміновыя мерапрыемствы. Паявяцца новыя асобы. Добра — патрабуеш цяпер новых кантактаў, каб рушыць з вельмі важнай справай. Не дай сябе падмануць у краме.

**(24.10. — 22.11.)** 21-25.02. магчымыя любоўныя і сямейныя праблемы. Не рабі нічога бяздумна, каб не памыліцца. Не будуй сваёй упэўненасці на тым, што скажа партнёр. Рашучая паправа настрою, прыліў жыццярадаснасці, энергіі. Добры час на лячэнне, горшы на фізічны высілак; рэляксуйся і рэгенеруйся. Не дай выкарыстоўваць у прафесіі сваіх задум і не рассакрэчвай планаў.

**(23.11. — 22.12.)** 24-28.02. удала зрэалізуеш нялёгкія мерапрыемствы. Дзякуючы трываласці давядзеш да канца важную справу. Пагражае табе нейкая моцная інфекцыя, пастарайся лепш высыпацца, больш адпачываць. Падмацоўвайся дыетай і вітамінамі. Можаш цяпер крыху адкласці грошай.

**(23.12. — 20.01.)** 21-24.02. пяшчотам не будзе канца. Твая адкрытасць на іншага чалавека прыцягне да цябе як магніт цікавых людзей. Вашы размовы пра жыццё і іхнія справы адкрыюць табе вочы. 24-28.02. усё будзеш мець зашпілена да апошняга гузіка. Будзеш уважлівы і давядзеш да канца важную справу. На працы шанцы на змену пасады ці новыя абавязкі.

**(21.01. — 19.02.)** Дбай аб фізічную актыўнасць, схадзі на басейн або прынамсі шпацыруй. Энергіі хопіць! Толькі не прастудзіся! З новым знаёмым не спыні знаёмства на адной сустрэчы, нават калі не ўсё ў ім табе спадабаецца, неўзабаве будзеце сяброўскім супертандэмам. 24-28.02. магчымыя турботы на працы.

**(20.02. — 21.03.)** Нагоды для ўдалых рандэву і цікавых кампанейскіх сустрэч. Дойдуць нейкія абавязкі, з якімі справіцца будзе нялёгка аднаму, асабліва 21-25.02. 23-25.04. магчымыя фізічныя нямогласці; не злуйся, не гневайся і не фруструйся. У апошнія дні тыдня будзеш ужо кіпець ад энергіі, справішся са стрэсам. Паправішся фізічна, але слухайся лекараў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Гайнаўка цэнтрам «Беларускай песні»


Гайнаўскі хор «Рэха пушчы»

**XXII Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня 2015»**, якога галоўным арганізатарам з'яўляецца Галоўнае праўленне БГКТ, распачаўся 24 студзеня з раённых элімінацый у Сямятычах. Пасля адбыліся раённыя агляды для Сакольскага, Беластоцкага, Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Прыняло ў іх удзел 113 выканаўцаў, агулам каля 600 чалавек. Сёлета цэнтральныя элімінацыі фестывалю «Беларуская песня 2015» адбыліся 15 лютага ў Гайнаўскім доме культуры. Выступілі 76 выканаўцаў, якія на раённых элімінацыях былі кваліфікаваныя на цэнтральны адбор. Беларускія песні гучалі ў ГДК ажно да вечара. Да цэнтральнага адбору прыступілі хары, калектывы, салісты, дуэты, тэрцэты і квартэты.

— Тут найчасцей выконваюцца апрацаваныя народныя песні і сучасныя творы. Штораз менш чуем аўтэнтычны фальклор. Затое апошнім часам павялічваецца колькасць моладзі, якая найчасцей выступае з эстрадным рэпертуарам, — заявіў старшыня БГКТ Ян Сычэўскі.

— Так склалася, што ў гэтым годзе Гайнаўка стала цэнтрам беларускай песні і добра, што ў ёй адбываецца цэнтральны агляд фестывалю «Беларуская песня». Гайнаўская публіка мае нагоду паслухаць песні ў выкананні калектываў з усёй Беласточчыны. Узровень сёлетніх выступаў высокі і гэта радуе. Цешыць нас таксама, што маладыя не забываюць пра родную мову і песню. На фестывалі выступае многа маладзёжных гуртоў, — сказаў намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень.

Сярод публікі беларускія песні слухалі гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, яго намеснік Андрэй Скепка і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч.

— Зараз нас, якія спяваем даўнія песні без апрацоўкі і акампанементу, штораз менш, бо калектывы, якія выконвалі такі рэпертуар, спыняюць сваю дзейнасць, — сказалі жанчыны з калектываў «Малінкі» з Маліннік і «Падляшанкі» з Гарадзіска, якія запрэзентаваліся з неапрацаваным фальклорам (спынілі ўжо дзейнасць «Тыневічанкі» з Тыневіч і «Арэшкі» з Арэшкава — А.М.).

«Малінкі» звярнулі ўвагу, што ў іх калектыве спяваюць маладыя дзяўчаты, якія хочуць спяваць складаны да выканання неапрацаваны фальклор. Беларускі калектыў «Арляне» з Орлі — самы стары і хутка будзе адзначаць 70-годдзе дзейнасці. Калектыў амаладжваецца, прадаўжае расслаўляць беларускую песню і беларускую культуру ды цікава запрэзентаваўся на цэнтральным адборы. Хор песні і танца «Васілёчкі» Бельскага дома культуры нядаўна адзначаў 50-гадовы юбілей. Яго спевакі ўдала запрэзентавалі лірычную беларускую песню.

— Для нас выступ на фестывалі «Беларуская песня» важны. Тады мы асабліва мабілізуемся, бо ёсць у нас нагода


Хор «Загадка» з Супраслі


Калектыў «Гай» з Беластока

параўнаць сябе з іншымі ўдзельнікамі конкурсу. Наш дырыжор Мікола Фадзін падбірае нам складаны рэпертуар і мы вымушаны многа рэпеціравацца, каб удала выступіць. Нам важна таксама ўдала запрэзентавацца перад публікай, — сказала кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

Прадбачваецца, што яшчэ ў першай палове гэтага года калектыў «Знічка» Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы будзе адзначаць 20-гадовы юбілей. Калектыў пачаў рыхтаваць новы рэпертуар, які займальна запрэзентаваў падчас фестывалю.

— Мы да «Беларускай песні» заўсёды рыхтуем новыя творы і так зрабілі сёлета, — заявіла настаўніца Бажэна Ляўчук, якая са «Знічкай» працуе 19,5 года і шкадуецца, што прыйдзецца расстацца з часткай добрых спевакоў, якія зараз вучацца ў трэціх класах. У калектыве спяваюць таксама трох ліцэістаў.

З беларускімі калектывамі «Вянок» і «Спадчына» Бельскага белліцэя працуе Іаанна Хількевіч. Белліцэісткі з абодвух калектываў выступілі падчас цэнтральнага агляду на высокім мастацкім узроўні. Вясной гэтага года юбілей 25-годдзя дзейнасці будзе святкаваць Калектыў беларускай песні «Маланка», якога музычным кіраўніком ад самога пачатку з'яўляецца Сяргей Лукашук, былы шматгадовы дырэктар Бельскага дома культуры і раней шматгадовы музычны кіраўнік «Васілёчкаў». «Маланка» запрэзентавалася ў Гайнаўцы ў розным саставе займальна і з цікавым рэпертуарам.

— Зараз шырокі доступ да разнароднага рэпертуару і можна выбраць цікавейшыя і прыгожыя беларускія песні. Калі я першы раз выступіў з «Васілёчкамі» падчас «Беларускай песні» ў 1971 годзе, у нас былі да выбару толькі творы з некалькіх спеўнікаў, а да гэтага часта з калгасным рэпертуарам. Зараз занікае нашая аўтэнтычная фальклорная песня, бо паміраюць старэйшыя вясковыя людзі, яе натуральныя носьбіты, — сказаў Сяргей Лукашук.

Падчас фестывалю ўдала запрэзентаваліся вакальна-інструментальныя калектывы, вядомыя ўдзельнікам беларускіх фэстаў.

— У нашым калектыве паявіліся дзве новыя асобы, спяваем таксама новыя песні, — сказаў лідар калектыву «Арт-Пронар» з Нарвы Ян Снарскі.

Выступы ў ГДК спыняліся, калі мелі прэзентавацца вакальна-інструментальныя гурты, бо музыкантам трэба было настроіць музычныя інструменты. Перапынак быў таксама перад тым, як калектыў «Гай» з Беластока выступіў з песняй «Касіў Васіль сена». Вакальна-інструментальная музыка рабіла «Беларускую песню» больш разнароднай. Гарачыя апладысменты суправаджалі выступленне калектыву «Світанак», у якім апрацаваную народную песню «Ой ляцелі гусі» заспявалі настаўніцы Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку.

— Нам тут добра спявалася, а публіка ў Гайнаўцы цёпла ўспрымае выступаючых, — заявіла Анна Бабік са «Світанка».

Займальна выступіў хор «Загадка» з Супраслі з песняй «Не шукай ты мяне», які рыхтаваўся пад наглядам дыякана Дзмітрыя Ціханюка (у мінулым музыканта славутых «Дубіноў») і матушкі Міраславы Ціханюк. «Чыжавяне» з Чыжоў выступаюць зараз у амаладжаным складзе і цікава запрэзентавалі песню «Беражыце хлеб».

— Каб выступіць на раённых, а пасля цэнтральных элімінацыях, мы многа рэпеціраваліся, бо ж нялёгка развучыць новы рэпертуар, які раней апрацоўвае наш музычны кіраўнік Юра Ганевіч, — сказаў Яраслаў Бялькевіч, спявак з «Чыжавян».

Марк Зубрыцкі, музычны кіраўнік белавежскага «Ручайка» заявіў, што выступ падчас «Беларускай песні» яго калектыў лічыць сваім абавязкам і штогод рыхтуецца да фестывалю. Гайнаўскі хор «Рэха пушчы» займальна заспяваў песню «Званочкі», а раней удала выступіла яго жаночая група.

— Мы любім спяваць, а выступ на фестывалі "Беларуская песня" гэта для нас асаблівая падзея. Мы рады, што сёлетнія цэнтральныя элімінацыі адбываюцца ў Гайнаўскім доме культуры, дзе мы займаемся. Мы сёння выступаем перад гайнаўскай публікай і гэта цешыць, — гаварыла Вера Масайла з гайнаўскага хора.

— Сёння цудоўныя выступы з беларускімі песнямі і ў агульным высокі ўзровень прэзентавання нашага рэпертуару. У кожнага калектыву, хору і выканаўцы ёсць свая прыгожасць. Я асабліва захапляюся неапрацаваным фальклорам, які сёння цудоўна запрэзентавалі «Падляшанкі» з Гарадзіска, ці «Малінкі» з Малінік. Я таксама пад вялікім уражаннем ад выступленняў бельскай «Маланкі» ў розным саставе і іншых выканаўцаў апрацаваных беларускіх песень, — заявіў Сцяпан Копа, былы інструктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку.

Гала-канцэрт фестывалю «Беларуская песня 2015», які арганізуе БГКТ у супрацоўніцтве з дамамі і асяродкамі культуры і мясцовымі самаўрадамі, мае адбыцца 19 лютага ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

ISSN 0546-1960